ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 26 (2376) 30 чэрвеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 100 рублёў.

## ВЫБАРЫ АДБЫЛІСЯ. ПРЭЗІДЭНТ НЕ ВЫБРАНЫ

Пасля кароткай, імклівай, бы кавалерыйская атака, у многім, мякка кажучы, не вельмі карэктнай перадвыбарчай кампаніі надышоў нарэшце спакойны і разважлівы дзень 23 чэрвеня -- дзень выбараў першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Нягледзячы на тое, што на дварэ лета, быў ён халодны, дзьмулі моцныя парывістыя вятры. Так што запомніцца ён жыхарам Беларусі не толькі сваім грамадска-палітычным надвор'ем. Актыўнасць была надзвычай высокай, нават нечакана высокай: у выбарах прынялі ўдзел больш за 78 працэнтаў выбаршчыкаў ад ліку ўнесеных у спісы. Як і чакалася, пакуль перамогі не дабіўся ніводзін з 6 прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла. Паводле папярэдніх даных, лідзіруе Аляксандр Лукашэнка, ён набраў больш за 45 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў. За ім ідзе Вячаслаў Кебіч. Відаць, паміж імі і адбудзецца другі тур прэзідэнцкіх гонак.

Ян ГІЛУЦЁВІЧ.



Фота Віктара СТАВЕРА.

СТВОРАНА АСАЦЫЯЦЫЯ МАРАЛЬНАГА АДНАЎЛЕННЯ

## АМАРАЛЬНАСЦЬ — ДУХОЎНЫ СНІД

**Беларуская рэспубліканская асацыяцыя "Маральнае аднаўленне" (БРАМА) створана сёлета ў красавіку. Яе ўзначальвае дацэнт Беларускага універсітэта культуры, дэкан гуманітарнага факультэта інстытута сучасных ведаў Уладзімір Раманоўскі. У маі БРАМА наладзіла канферэнцыю-прэзентацыю "Вечныя каштоўнасці ў пераменлівым свеце", на якой абмяркоўваліся пытанні: асаблівасці паводзін людзей ва ўмовах прыроднага і сацыяльнага экстрэмуму, хрысціянская этыка і сучасны свет, адносіны мужчыны і жанчыны ў гістарычным кантэксце і духоўнай сітуацыі часу і іншыя. На канферэнцыі выступалі вучоныя з Англіі, Германіі, Егіпта.**

**Прапаноўваем інтэрв'ю з Уладзімірам РАМАНОЎСКІМ, старшынёй рады асацыяцыі.**

**-- Уладзімір Аляксандравіч, што для вас як для старшыні рады асацыяцыі значыць паняцце маральнае аднаўленне?**

-- Нормы маралі ўзніклі не сёння і нават не дзве тысячы гадоў таму. Колькі існуе чалавецтва, столькі яно займаецца праблемамі маралі. Нават у першабытнай структуры чалавечага грамадства існаваў пэўны маральны кодэкс, які ахоўваў чалавечы род. Мараль -- гэта засцерагаючыя нормы. У сферы маралі немагчыма сказаць нешта новае. Калі законы носяць часовы характар, то нормы маралі вечныя. Таму мы і выступаем за маральнае аднаўленне. Распуста -- духоўны СНІД. Механізм яго такі ж, як у фізічнай хваробы. У арганізм пранікае вірус, аслабляе імунную сістэму, і чалавек становіцца бездапаможным перад хваробамі. Мы ўпускаем у сябе распусту, якая з'яўляецца мікраарганізмам найвялікшай рабуральнай сілы. Тым самым разбураецца арганізм грамадства. Ці не пра гэта сведчаць палітыка, журналістыка, літаратура, кінапрадукцыя, наваднёныя пошласцю, парнаграфіяй?!

У перадвыбарнай барацьбе ніводзін кандыдат у прэзідэнты ў сваёй праграме не разглядаў сур'ёзна праблемы маралі. Усе сканцэнтраваны на абяцаннях вырашыць эканамічныя пытанні. Гэта значыць, што хто б з сённяшніх кандыдатаў ні атрымаў уладу, кіраўнік дзяржавы па-ранейшаму не будзе займацца ўмацаваннем маральных асноў грамадства.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

ЯШЧЭ АДЗІН ШЛЯХ БЕЛАРУСІ Ў БУДУЧЫНЮ

## ЦІ ВЫКАРЫСТАЕМ СВОЙ ШАНЦ

**Тэма выспявала даўно, хаця спачатку ўяўлялася як аўтарскі артыкул філосафа, прафесара Мікалая Крукоўскага, у якім былі б разважанні і меркаванні вучонага пра беларускі нацыянальны характар, яго асаблівасці і вызначальныя рысы. Дажылі мы да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны, былы партызан Мікалай КРУКОЎСКІ даў інтэрв'ю "Голасу Радзімы", дзе разглядае гэты самы беларускі характар у экстрэмальнай сітуацыі, у час небяспекі, калі пад пагрозай было само існаванне народа.**

*-- У час нашых папярэдніх перамоваў я, калі памятаеце, пыталася ў вас, Мікалай Ігнатавіч, адкуль, на вашу думку, у беларусаў такая абыякавасць да сваёй гісторыі, сваёй мінуўшчыны, роднай мовы, чаму ў большасці іх адсутнічае пачуццё нацыянальнай годнасці. Гэта што, прыроджаная якасць ці выхаваная пад уздзеяннем нейкіх неспрыяльных гістарычных умоў?*

-- Думаю, што гэта не прыроджаная рыса характару і ўвогуле не хачу думаць, што беларусы -- народ, які страціў нацыянальную самасвядомасць. Гісторыя сведчыць, што мы на нешта здатныя. Прыгадайце факты з гісторыі, калі беларусы пад Койданавам далі па зубах татара-манголам і не скарыліся чужынцам. Пацвярджэннем нашай нацыянальнай годнасці могуць служыць не толькі часы Вітаўта і вызвольныя паўстанні Касцюшкі ці Каліноўскага. І ў XVI-XVII стагоддзях у Рэчы Паспалітай быў моцны беларускі пачатак, пра што сведчаць Сапегі і Радзівілы. Нацыянальная самасвядомасць ёсць, яе толькі варта разбудзіць, беларусы не такія ўжо прастакі. Нездарма Якуб Колас пісаў: "Я маўчу, маўчу, трываю, але хутка загукаю..." Або Купалаў заклік: "Партызаны, партызаны, беларускія сыны..." Давайце спынімся на больш блізкай да нас гісторыі -- часах Вялікай Айчыннай вайны.

Масавы партызанскі рух на нашай тэрыторыі я называю Беларускім супраціўленнем і прапаную пісаць яго з вялікай літары, бо яно было не менш моцнае, чым французскі Рэзістанс. Партызаны былі сапраўды беларускімі сынамі, і лічыць нас агентамі НКУС ці яшчэ каго крайне несправядліва. Асабіста мяне балюча закранае слова "освобождение". У беларускай мове слова "вызваленне" мае трошкі іншае адценне: вызваліцца можна і самому; "освобождение" -- кагосьці хтосьці "освобождал". Дык вось, наколькі нас "освобождали" і як беларусы ваявалі. У вайне Беларусь была зусім не пасіўнай адзінкай, пра гэта сведчаць лічбы: партызанская армія налічвала 370 тысяч чалавек, гэта трэцяя частка мільёна, і яе намаганнямі 60 працэнтаў беларускай тэрыторыі было вызвалена ад акупантаў. Калі выконвалася аперацыя "Баграціён", Савецкая Армія ўвайшла ў Беларусь так лёгка, як нож у масла, таму што нямецкія тылы тут былі дэзарганізаваны, а нямецкія гарнізоны стаялі толькі ўздоўж стратэгічных шляхоў. Менавіта дзякуючы нашаму партызанскаму руху, арміі былі адкрыты вароты на захад, на Германію. За нашай спінай на захадзе дзейнічала Армія Краёва, якая разглядала нас як перадавыя атрады Савецкай Арміі. Палякі ўвогуле ставіліся да нас не вельмі прыхільна, бывалі сутычкі, але больш выпадкаў, калі мы дамаўляліся і гramілі немцаў сумесна.

*-- Усё, што звязана з дзеяннямі Арміі Краёвай, да гэтага часу вельмі заблытана.*

-- Так, і цяпер яе ў нас па-ўсякаму абылгіваюць. Да яе дрэнна ставіўся Сталін, таму што яна арыентавалася на польскі ўрад у Лондане, і ён жа з ёю подла расправіўся ў час Варшаўскага паўстання.

*-- Мікалай Ігнатавіч, а як вы трапілі ў партызаны?*



-- Вяземскі кацёл, з яго -- у палон. У армію я пайшоў добраахвотнікам у 41-м, мне не было і 18 гадоў. А за тое, што быў у палоне, давялося адседзець у Калініне за калючым дротам, пакуль разабраліся.

(Заканчэнне на 6-7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*У АРМІІ ПАПАЎНЕННЕ*



Па традыцыі выпускнікам ваенных вучылішчаў уручаюць дыпломы ўрачыста і ў прысутнасці вялікай колькасці людзей. Так было і на гэты раз. На плошчы Незалежнасці ў Мінску сабраліся сваякі, сябры, жонкі і нявесты выпускнікоў, каб павіншаваць маладых афіцэраў са сканчэннем вучобы.

Дарэчы, з прыходам сённяшняга папаўнення колькасць ураджэнцаў Беларусі, якія служаць ва Узброеных Сілах нашай Рэспублікі, падымецца да 55 працэнтаў, а праз год ужо складзе 65 працэнтаў.

У праграме ўрачыстасцяў была клятва новых кадраў арміі верна служыць сваёй Айчыне, віншаванне, з якім звярнуўся да выпускнікоў міністр абароны Рэспублікі Беларусь Павел Казлоўскі, канцэрт вядомых артыстаў нашай краіны, падрыхтаваны намаганнямі кампазітара Ігара Лучанка.

НА ЗДЫМКУ: маладыя афіцэры Рэспублікі Беларусь на плошчы Незалежнасці ў час урачыстасцяў.

*ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ*

## А. ЛУКАШЭНКА: "Я БЯЗМЕРНА ЎДЗЯЧНЫ ВЫБАРШЧЫКАМ"

Карэспандэнт Белінфарма звязаўся па тэлефоне з Аляксандрам **ЛУКАШЭНКАМ** і задаў яму некалькі пытанняў.

-- Аляксандр Рыгоравіч, чым вы растлумачыце такі вялікі, проста сенсацыйны адрыў ад сваіх сапернікаў?

-- Тое, што адбылося, з'яўляецца сенсацыяй толькі для тых, хто не хацеў бачыць ісціну. А для нашай каманды -- гэта пакуль што расчараванне, таму што мы разлічвалі атрымаць больш галасоў і ўжо ў першым туры перамагчы. Я думаю, што і для народа гэта ніякая не сенсацыя. Беднаму, абяздоленаму, яму ўпершыню выпала магчымасць выбраць чалавека са свайго асяроддзя. І ён сказаў сваё слова. І я хацеў бы выказаць велізарную падзяку ўсім, хто аддаў свой голас у маю падтрымку. Гэта па-першае. Па-другое, я лічу, што ўсе лепшыя, найбольш здольныя дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі аказаліся побач са мной.

-- Як вы думаеце весці работу ў другім туры выбараў за права стаць прэзідэнтам: метадам выкрывання карупцыянераў або выступаць з праграмай стварэння?

-- Я толькі адказваў на тыя выпады і той бруд, які ліўся на мяне. А што датычыць выкрыццяў, то я зноў паўтаруся: на чале ўлады не павінны заставацца тыя, хто ўвяз у карупцыі. Паколькі ўсе, каго выводзіла на "чыстую ваду" наша камісія, не пакаяліся. Яны гатовы аддаць усё, толькі б дабудаваць свае асабнякі. А хіба гэта можна зрабіць за цяперашнюю "чыстую" зарплату? Значыць, зноў ідзе адкрытае абкраданне народа.

Што датычыць другой часткі пытання, то ў гэтыя два тыдні асноўная ўвага будзе звернута на растлумачэнне стваральнага патэнцыялу нашай праграмы. Мы вызначылі тры асноўныя напрамкі: стрымліванне інфляцыі і росту цэн, барацьба з карупцыяй, устанаўленне цесных эканамічных сувязей Беларусі з Расіяй. Сёння ў нас распрацаваны блок пытанняў па вырашэнню эканамічных праблем, каб ужо на працягу паўгода спыніць спад прамысловасці, запусціць у работу прадпрыемствы, вярнуць на свае рабочыя месцы людзей, выкінутых на вуліцу, стварыць новыя рабочыя месцы. Гэта мы разлічваем зрабіць з дапамогай Расіі, якая, я спадзяюся, пойдзе нам насустрач.

Ну, а ў перадвыбарнай кампаніі і барацьбе я ні на крок не адступлюся і не зніму сваёй кандыдатуры, нават перад пагрозай самых крайніх мераў адносна маёй асобы.

## ЧАМУ ТАК ЗДАРЫЛАСЯ І ШТО МОЖА БЫЦЬ ДАЛЕЙ?

Думаецца, для многіх вынікі першага тура прэзідэнцкіх выбараў сталі даволі нечаканымі. Чаму так здарылася? Што будзе далей? На гэтыя пытанні адказвае Старшыня праўлення Нацыянальнага банка, член каманды Станіслава Шушкевіча Станіслаў **БАГДАНКЕВІЧ:**

-- Такі велізарны разрыў паміж першым і другім месцам сапраўды — вялікая нечаканасць. У той жа час тое, што Пазняк набраў больш галасоў, чым Шушкевіч, -- для мяне асабіста такая ж нечаканасць. Я меркаваў, што будзе наадварот. Зноў жа, Дубко, паводле маіх прагнозаў, павінен быў аказацца ніжэй, чым Новікаў.

Станіслаў Багданкевіч згадзіўся, што па папярэдніх выніках першага тура галасавання можна меркаваць і аб канчатковых рэзультатах выбараў. На пытанне: "Ці застаецца ў сіле яго заява ў інтэрв'ю "Народнай газеце" аб тым, што галоўны банкір рэспублікі гатовы працаваць з любым прэзідэнтам!" Станіслаў Антонавіч адказаў: "Заява зроблена, і я не адмаўляюся ад сваіх слоў. Гатовы разам працаваць у тым ліку і з А. Лукашэнкам, але так, каб у аснове супрацоўніцтва ляжалі прынцыпы. Увогуле ж, я лічу, што абнаўленне, у тым ліку і кіраўніцтва, неабходна рэспубліцы ў любой форме".

## ДЗЯРЖАЎНЫ СЦЯГ БЕЛАРУСІ Ў НЕБЕ БОСТАНА

Як паведамілі з пасольства Беларусі ў Злучаных Штатах Амерыкі, у гонар першых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі гарадскімі ўладамі Бостана прынята рашэнне ўзняць дзяржаўны сцяг Беларусі над горадам з 23 па 25 чэрвеня. Паведамляючы аб гэтым Беларускаму пасольству, улады Бостана адзначылі, што гэты жэст сімвалізуе салідарнасць аднай дэмакратычнай дзяржавы з другой. Згаданы крок зроблены па просьбе пражываючых у Бостане выхадцаў з Беларусі і з'яўляецца знакам сяброўства і падтрымкі амерыканскім народам працэсу дэмакратызацыі, які адбываецца на Беларусі.

*АФІЦЫЙНА*

## ПРАЦЯГНЕЦЦА ДА КАНЦА 1994 ГОДА

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 15 чэрвеня 1994 года N 446 прадоўжыцца да 31 снежня 1994 года дзеючы парадак афармлення дакументаў для выезду грамадзян Рэспублікі Беларусь за мяжу.

У адпаведнасці з ёю грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія маюць замежны пашпарт грамадзяніна СССР з адзнакай аб прыналежнасці да грамадзянства Рэспублікі Беларусь і запісам аб дазволе на часовы выезд за мяжу (незалежна ад тэрміну, калі ён зроблены), могуць выязджаць за мяжу без дадатковага афармлення дакументаў.

У перыяд да ўвядзення нацыянальных пашпартоў грамадзян Рэспублікі Беларусь пастанова накіравана на рэалізацыю правоў грамадзян на вольны выезд за мяжу ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян Рэспублікі Беларусь". Гэта дазволіць грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія выязджаюць за мяжу на адпачынак і аздараўленне ў 1994 годзе, не толькі пазбегнуць доўгіх працэдур афармлення выязных дакументаў, але зэканоміць сродкі грамадзян па аплаце іх правядзення.

*"Больш за ўсё мяне хвалююць далейшыя шляхі развіцця краіны Беларусь. Эканамічныя цяжкасці ўздзейнічаюць на ўсе бакі жыццядзейнасці грамадства. Глыбока памыляюцца тыя, хто лічыць, што ўсе нашы бяды звязаны з імкненнем да суверэнітэту. Скажам шчыра: сапраўднага і поўнага суверэнітэту мы яшчэ і не пакаштавалі. Мы толькі заявілі пра яго, пра сваё імкненне да яго. Суверэнітэт трэба заслужыць.*

*Мяне трывожыць тое, што замест таго каб спакойна разабрацца з асаблівасцямі нашай эканомікі, каб разумна -- палітычна і эканамічна -- выкарыстаць наша геапалітычнае становішча і выбраць свой шлях, мы цягнем час, страчваючы пры гэтым патэнцыял, рэзервы, людскія рэсурсы. Я асабіста ні на хвіліну не сумняваюся, што самым блізкім сябрам і партнёрам для нас будзе ўсё ж Расія. Мы з ёю былі, ёсць і будзем. Але -- толькі на роўных".*

*Генадзь БУРАЎКІН,*
*намеснік міністра культуры і друку.*

*ПЕРНІКІ*

## БЕЛАРУСІ — ПА СХОДНАЙ ЦАНЕ

У Маскве пабывала з рабочым візітам урадавая дэлегацыя Беларусі.

У гутарцы з карэспандэнтам Белінфарма першы намеснік дырэктара Дэпартамента цэн пры Міністэрстве эканомікі рэспублікі Аляксандр Пакрамовіч адзначыў, што паездка была вельмі паспяховай. Па яго словах, адносіны расіян да нас вельмі змяніліся. Таму і перагаворы праходзілі ў сяброўскай абстаноўцы пры поўным узаемаразуменні. Дасягнута дамоўленасць аб пастаўцы ў Беларусь нафты ў межах вылучанай квоты па сярэднесусветных цэнах з вылікам мытных пошлін. Цяпер кожная тона яе будзе каштаваць 60 долараў, што амаль на 30 долараў менш у параўнанні з усімі дзяржавамі былога Саюза. А з моманту аб'яднання грашовых сістэм Беларусь атрымае прыярытэт перад іншымі краінамі СНД і энерганосьбіты пачнуць паступаць да нас па ўнутраных цэнах Расійскай Федэрацыі.

*РЭДКІЯ ЗНАХОДКІ*

## КОБРЫНСКІ БУРШТЫН

На кафедры геалогіі Брэсцкага педагагічнага інстытута знаходзіцца на даследаванні бурштын, знойдзены ў раёне горада Кобрына ў рэчышчы Днепра-Бугскага канала на глыбіні 9 метраў. Даследчыкі адзначаюць, што гэта зусім непразрысты аднародны бурштын, што адносіцца па гатунковай класіфікацыі да касцянога бурштыну, блізкага да буйнакаратных алмазаў.

Вучоныя таксама лічаць гэты ўзор адным з самых рэдкіх сярод падобнага паходжання бурштыну, тым больш, што знойдзены ён у Беларусі, якая сваімі бурштынавымі запасамі пахваліцца не можа.

*МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ*



Міжнародныя выстаўкі "Белагра" самыя прадстаўнічыя ў Мінску не па колькасці экспанатаў, а па сваёй значнасці. Па добрай традыцыі, напрыклад, экспанат адразу з выставачнай пляцоўкі можа адправіцца ў калгас на выпрабаванні. Так было з бульбаўборачнымі камбайнамі з Германіі, з сельскагаспадарчай тэхнікай з Францыі ў мінулыя гады.

Шмат новай сельскагаспадарчай тэхнікі было прадстаўлена і сёлета. На гэты раз большасць экспанатаў размясцілася на адкрытай пляцоўцы комплексу "Мінскэкспа". Добра глядзеліся тут вырабы беларускіх заводаў. Значная частка тэхнікі нашай краіны ідзе на экспарт.

НА ЗДЫМКУ: у час выстаўкі "Белагра-94".

*КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА*

# КРОПЛЯ ВАДЫ Ў ВЯДРО ДАДАЕЦЦА

**Гістарычная веда -- гэта нацыянальная свядомасць. Нацыянальная свядомасць -- гэта грамадская і палітычная актыўнасць. Грамадская і палітычная актыўнасць -- гэта выхад з крызісу, шлях да нечага новага.**

*(З выступлення Янкі ЗАПРУДНІКА (ЗША) на міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа").*

Хутка будзе год, як у Мінску адбыўся Першы з'езд беларусаў свету. І вось на мінулым тыдні прайшлі запар аж дзве міжнародныя навуковыя канферэнцыі: "Культура беларускага замежжа" і "Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні: традыцыі, сучасны стан, перспектывы". Гэта сведчыць аб тым, што адна з выразных прыкмет нацыянальнага Адраджэння сёння -- памкненне да духоўнага яднання беларусаў свету незалежна ад таго, хто па які бок мяжы знаходзіцца. Робіцца яшчэ адзін крок, каб пераканацца ў тым, наколькі наш нацыянальны дух трывалы і жыццяздольны, каб усе культурныя набыткі замежных суайчыннікаў сталіся і нашымі, каб адкрыць для сябе тое, што доўгі час утойвалася, і далучыцца да ўсяго таго, што ў нас ёсць і чым мы павінны даражыць і ганарыцца, каб выправіць мінулыя памылкі, дапушчаную несправядлівасць, каб наогул садзейнічаць большаму паразуменню і паяднанню нацыі.

Доўгія гады беларуская мінуўшчына была аб'ектам гвалту. Што тычыцца дзеячаў беларускага замежжа, іх творчасці, то пра іх можна было сказаць альбо блага, альбо ў лепшым выпадку нічога. Шмат твораў беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і яе класікаў, а часам не толькі творы, а нават імёны рэпрэсіраваных дзеячаў літаратуры і мастацтва былі закрыты ў "спецхраны". Ад нашых вачэй было адлучана шмат карцін мастакоў, нам не дазвалялі слухаць цудоўную музыку беларускіх кампазітараў і спевакоў, калі яны былі замежныя. Нарэшце магутная сцяна, якая падзяляла культурныя здабыткі Беларусі і беларускага замежжа, разбураецца. "Ёсць шкадаванне ад думкі: чаму толькі цяпер? Вечная наша бяда: мы заўсёды спазняемся. Мы нават стварылі сабе тэорыю самаапраўдання: цішэй едзеш -- далей будзеш. Лёгка сабе даруем", -- сказаў на адкрыцці канферэнцыі вядомы пісьменнік, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч.

Канферэнцыя атрымалася цікавай і прадстаўнічай. З надзеяй, што Беларусь будзе моцнай дзяржавай і зможа абараніць усіх сваіх сыноў і дачок, сабраліся ў сталічным Доме літаратара навукоўцы, пісьменнікі, гісторыкі, журналісты, публіцысты з розных куткоў свету: Беларусі, Амерыкі, Германіі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Польшчы, краін Балтыі, Расіі, Таджыкістана, Узбекістана. Сышліся зноў, каб паразмаўляць, папрацаваць на карысць Бацькаўшчыны. Узнімаліся пытанні, якія ніколі не разглядаліся, а таму вымагаюць азначэння і асэнсавання. Відавочна, што калі ставіцца праблема на навуковую аснову, то ёсць патрэба выпрацаваць падыходы і дамовіцца аб пэўных крытэрыях, якія і будуць вызначаць далейшую працу. У сваім дакладзе прафесар Анатоль Сабалеўскі прапанаваў адкінуць усе існуючыя да гэтага часу ідэалагічныя штампы і пайсці насустрач адзін аднаму ў імя агульнанацыянальных інтарэсаў. На жаль, гэта прапанова засталася амаль што без увагі. З чым пагадзіліся ўсе ўдзельнікі канферэнцыі, дык гэта з тым, што такія сустрэчы вельмі патрэбныя і карысныя. Такая думка прагучала і ў дакладах, і ў размовах паміж пасяджэннямі.

**Вітаўт КІПЕЛЬ, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва (ЗША):**

-- Я не магу не сказаць аб нашай мацніні, жывучасці. Мы -- нацыя жывучая. Збіраецца культурная спадчына. Гэта вельмі важна. Існуе яшчэ шмат пытанняў, якія мы мусім насвятляць небеларускаму парламенту на беларускай зямлі. У гэтым мы з-за акіяна сапраўды бачым вялікі крок наперад у нашым руху. Відавочна, мы -- эміграцыя палітычная і такой застанемся, пакуль не будзе створана сапраўды незалежная дэмакратычная дзяржава. Але мы дэкляруем нашу дапамогу і супрацоўніцтва з ЗБС "Бацькаўшчына", іншымі ўстановамі, якія стаяць на пазіцыі дзяржаўнасці.

**Зінаіда КЛЫГА, Беларуска-эстонскае задзіночанне "БЭЗ" (г. Кохтла-Ярве):**

-- Вельмі добра, што мы сустракаемся. Спадзяюся, гэта будзе мець уплыў на беларускае грамадства. Слухаючы даклады прадстаўнікоў розных краін, я зразумела, што беларусы ў Амерыцы, на Беласточчыне, нават у краінах СНД больш беларусы, чым тутэйшыя. Вельмі ўразіў мяне даклад Ніны Брэдэрлоў (Патсдамскі універсітэт). Гэта ж адкрыццё! Там, у замежжы, яны напрацоўваюць матэрыялы і імкнуцца давесці да грамадскасці тут, у Беларусі. Але ці дойдзе гэта да тых, хто не лічыць сябе беларусам на гэтай зямлі? Вось такі дробны выпадак. Прывозяць нас тут на сняданак, і ўсе, хто нас абслугоўвае, размаўляюць з намі выключна па-руску. Чаму?

**Васіль МЕЛЬЯНОВІЧ, Беларуска-амерыканская інфармацыйная служба (ЗША):**

-- Канферэнцыя вельмі патрэбная і карысная для беларускай справы, для тых, хто займаецца гісторыяй, літаратурай беларускага замежжа. Усе нашы набыткі трэба ўвесці ў агульную беларускую культуру, гісторыю, пісаць і як мага болей гаварыць пра гэта, бо да нядаўняга часу ніхто не ведаў нічога пра створанае ў замежжы. Не трэба аглядацца назад. Сёння мы павінны ісці наперад. Размовы такога кшталту вельмі карысныя. Мы дастаем новыя думкі, ідэі, робім пэўныя карэктывы, кожная кропля вады ў вядро дадаецца. Матэрыял будзе сабраны і, як тут казалі, надрукаваны. А кніжка -- гэта ўжо вялікая праца на гісторыю. Яе будуць чытаць і вывучаць.

**Янка ЖУЧКА (Бельгія):**

-- Уражанне ад канферэнцыі вельмі добрае, мы жылі ў адным свеце, вы -- у іншым. Нарэшце прыйшоў час, каб злучыць усё разам. Шмат цікавых дакладаў. Толькі вельмі цяжка ўспрымаць усё на слых, асэнсаваць, падрыхтаваць пытанні. Іншая справа, каб я меў даклады загадзя. Але я разумею тутэйшыя цяжкасці: няма сродкаў, няма маральнай падтрымкі з боку ўладаў. Ды справа тым не менш робіцца, і справа вельмі карысная.

**Мікола ЕРМАЛОВІЧ, гісторык (Беларусь):**

-- Доўгія гады мы нічога не ведалі, як жывуць нашы суайчыннікі ў замежжы. Калі-нікалі я слухаў радыё "Свабода" і даведваўся, што яны добра паінфармаваны аб нашым жыцці тут. Мог здагадвацца, што там яны робяць вялікую працу на карысць Бацькаўшчыны: пішуць працы, друкуюць кнігі. І вось толькі цяпер у нас ёсць магчымасць далучыцца да гэтага багацця, і таму лічу: такія канферэнцыі вельмі патрэбныя.

Нягледзячы на тое, што асобныя ўдзельнікі з блізкага замежжа наракалі на несвоечасовасць канферэнцыі, тым не менш усе віталі ініцыятыву ЗБС "Бацькаўшчына" і былі ўдзячны за арганізацыю сустрэчы і за тую працу, якую яно робіць для аб'яднання беларусаў свету.

Добра, што на пасяджэннях не было пустых размоў. Канферэнцыя працавала плённа, на высокім навуковым узроўні. Там закладаліся падмуркі агульнай багатай культуры і гісторыі. Вялося глыбокае праўдзівае даследаванне, вызначэнне таго, хто мы ёсць і што мы за народ. Справа вельмі нялёгкая, калі яшчэ ўлічыць і тое, што наша нацыя -- адна з самых раскіданых у свеце. Дастаткова ўзгадаць, што кожны трэці беларус жыве па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны. Менавіта таму трэба рабіць усё магчымае, каб нашы суайчыннікі за мяжой не страцілі адчуванне роднай зямлі, як гэта здарылася з аргенцінскай эміграцыяй, пра якую, дарэчы, яшчэ мала што вядома і якая вымагае больш дасканалага вывучэння. Гэта па-чалавечаму проста і мудра: сабрацца ўсім разам, калі ў небяспецы твая маці, бацька, твая зямля. Больш таго, прыехаўшы сюды, кожны з сыноў і дачок Беларусі прывёз па глытку жывой вады для сваёй Радзімы-маці, якая ўвальецца ў агульны збан і будзе па кроплі ўводзіцца ў яе смяротна хворы арганізм. Усе яны вераць, што ў хуткім часе Беларусь ачуняе і ўзнімецца з каленяў у поўны рост, і набяруць моцы яе змярцвелыя часткі: свядомасць, мова, гонар, годнасць, патрыятызм. І тады за любасць да яе і пяшчоту сваіх дзяцей яна нікога не забудзе, не пакіне без апекі, усім дасць сваю падтрымку і дапамогу. І будзем мы працаваць усе разам з Беларуссю -- на Беларусь. І будзе гэта азначаць вышэйшую ступень нацыянальнай свядомасці.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### МІЖНАРОДНАЙ НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ "КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА", ЯКАЯ ПРАЙШЛА Ў МІНСКУ 12 —13 ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

**У канферэнцыі, арганізаванай згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" сумесна з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны, прынялі ўдзел навукоўцы, пісьменнікі, публіцысты, журналісты, якія спецыялізуюцца ў галіне культуры беларускага замежжа, з Беларусі, ЗША, Польшчы, Англіі, Германіі, Бельгіі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Узбекістана, Таджыкістана, прадстаўнікі грамадскасці Беларусі. Было заслухана больш за 50 дакладаў і паведамленняў, у дыскусіі выступіла 12 чалавек. Разглядаліся пытанні гісторыі, літаратуры, мастацтва, культуры ў самым шырокім аспекце. Даклады, выступленні мелі праблемны характар, грунтаваліся на новых, у большасці невядомых раней матэрыялах. Канферэнцыя працавала плённа, прайшла на высокім навуковым узроўні.**

**Канферэнцыя пастанавіла:**

**Тэксты дакладаў, паведамленняў апублікаваць у друку.**

**Улічваючы важнасць праблемы, праводзіць міжнародныя навуковыя канферэнцыі па культуры беларускага замежжа сістэматычна -- раз у два гады.**

**Звярнуцца ва ўрад Рэспублікі Беларусь з канкрэтнымі прапановамі па выкананню дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце", а таксама з тым, каб навуковыя даследаванні па культуры беларускага замежжа фінансаваліся ў ліку прыярытэтных.**

**Падтрымліваючы праграму выдання кніг, матэрыялаў па культуры беларускага замежжа, звярнуцца ў Міністэрства культуры і друку рэспублікі, каб значна павялічыць колькасць такіх выпускаў.**

**Звярнуцца ў Міністэрства адукацыі Беларусі, каб з новага 1994 навучальнага года былі ўведзены спецкурсы па культуры беларускага замежжа на гуманітарных факультэтах ВНУ, а таксама адпаведныя раздзелы ў сярэдніх школах.**

**Звярнуцца ва ўрад і Акадэмію навук Беларусі, каб быў створаны асобны навукова-даследчы інстытут па гісторыі і праблемах беларускага замежжа.**

**Заснаваны асобны фонд "Культура беларускага замежжа".**





**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі міжнароднай навуковай канферэнцыі Васіль МЕЛЬЯНОВІЧ (ЗША), Антось і Яўген МІРАНОВІЧЫ (Польшча); у заключным канцэрце фестывалю "Культура беларускага замежжа" браў удзел і фальклорны гурт суполкі імя Ф.Скарыны (горад Масква).**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# НЕВЯДОМАЯ ВАЙНА

## АНТЫБАЛЬШАВІЦКІ РУХ НА БЕЛАРУСІ (1917–1925 гады)

Для кіравання і каардынацыі ўзброенымі аддзеламі існаваў Галоўны штаб, які ўзначальваў Уладзімір Ксяневіч, ён жа Грач. Як сведчыў Грач на допыце ў ДПУ, куды трапіў у 1924 годзе, партыя вяла барацьбу "за незалежнасць Беларусі. Форму праўлення быў павінен вызначыць Устаноўчы Сойм". У сваёй дзейнасці "Зялёны дуб" выкарыстоўваў дапамогу Польшчы, супрацоўнічаў з Булак-Балаховічам, што было прычынай адмоўных адносін да яго з боку БПС-Р. Канфрантацыя паміж эсэрамі, з аднаго боку, і зялёнадубцамі і балахоўцамі, з другога, самым негатыўным чынам адбілася на ходзе і выніках Слуцкага паўстання.

Узброеная барацьба беларускіх паўстанцаў была арганізавана і мела пэўную цэнтралізацыю. Партызанскія аддзелы падпарадкоўваліся спецыяльна створаным штабам. Такія існавалі ў розныя часы ў Лунінцы, Нясвіжы, Мазыры, Міры. Існавала нават пасада галоўных начальнікаў штабаў, якія каардынавалі дзеянні атрадаў.

Атрады былі мабільнымі, падрыхтаванымі да рашучых дзеянняў, часцяком добра ўзброенымі, як, напрыклад, аддзелы генерала Булак-Балаховіча, капітана Мяфодзія Караткевіча, паручніка Хведашчэні і інш. Склад аддзелаў, якія дыслацыраваліся ў беларускіх лясах, не быў пастаянным. Адны пакідалі атрады, часцей за ўсё ўладкоўваліся з сем'ямі ў Польшчы, другія прыходзілі ім на змену -- у сярэднім працяг партызанскіх дзеянняў складаў каля 2-х гадоў. Мала хто вытрываў 7--10-гадовы шлях барацьбы і потым зноў з'явіўся на Беларусі ўжо ў гады другой сусветнай вайны. Часцей за ўсё гінулі ва ўзброеных сутычках, былі захоплены чырвонымі, расстраляны калі не ў 20-я, то ў 30-я гады. Агульную лічбу партызан, якія прымалі ўдзел у антыбальшавіцкай барацьбе з 1918 па 1925 год, дакладна назваць цяжка, патрэбны яшчэ дадатковыя падлікі, але ўвогуле ў паслякастрычніцкія гады ў руху супраціўлення іх было не менш 100 тысяч чалавек.

Сацыяльны склад быў самы разнастайны: рабочыя, сяляне, служачыя, афіцэры, якія прайшлі сусветную вайну. Апошнія, як правіла, узначальвалі аддзелы ў тых мясцінах, адкуль былі родам. Былі ў атрадах і святары. Але галоўныя паўстанцкія кадры рэкрутаваліся з сялянства, тыя ж самыя афіцэры часцей за ўсё паходзілі з сялянскіх сем'яў. Прыкладам могуць служыць браты Караткевічы, вясковыя хлопцы з сям'і сярэдняга дастатку з Брожскай воласці Бабруйскага павета. Капітанамі вярнуліся з першай сусветнай вайны. Мяфодзій быў забіты ў ліпені 1921 года, яго брат працягваў барацьбу поруч з генералам Булак-Балаховічам і ў другой палове 20-х гадоў.

Па колькасці аддзелы былі невялікія -- 30–100 чалавек. Найбольш буйныя спалучэнні -- атрад Івана Галака -- 800 чалавек, Мяфодзія Караткевіча -- 500 чалавек, Івана Марцелава -- 800, Паўночна-Мінская група Лабукова-Каціна налічвала да 1,5 тысячы паўстанцаў. У Веліжскім 1918 года і Слуцкім 1920 года паўстаннях прымалі ўдзел больш чым па 15 тысяч чалавек.

На ліквідацыю руху Супраціўлення былі кінуты каласальныя сілы. З партызанскімі аддзеламі вялі барацьбу часці рэгулярнай Чырвонай Арміі, ЧК, ЧОН, міліцыя, карныя, знішчальныя атрады, шматлікія камісіі па барацьбе з бандытызмам (камбанды), рэўваенсаветы, рэўтрыбуналы. Славутыя чырвоныя камандзіры падаўлялі паўстанцкі рух -- Тухачэўскі, Убарэвіч, Путна, Эйдэман і інш. Гэта таксама сведчыць аб моцы і маштабах усяго антыбальшавіцкага руху на Беларусі.

Нельга абмінуць маральны бок гэтай гістарычнай з'явы. Не заўсёды апраўданая жорсткасць лясных барацьбітоў засталася ў памяці людзей. Ёсць такія крывавыя плямы і на сцягу войска Булак-Балаховіча, штандарах зялёнадубцаў, палітычнай арганізацыі "За Бацькаўшчыну".

Так, узброеная рэзістэнцыя -- гэта не толькі гераічная барацьба з ворагам, самаахвярнасць беларусаў, гэта і помста, страта каштоўнасці жыцця чалавека. Безумоўна, грамадзянская вайна, тым больш партызаншчына, была не менш жорсткая, чым іншыя ваенныя канфлікты.

Беларуская партызанка пасля Кастрычніка пачыналася як нацыянальная барацьба. У сярэдзіне 20-х згубіла свой размах, перажыла надлом. Ачагі супраціўлення захаваліся большай часткай за мяжой, у Польшчы, Літве, але гэта ўжо было супраціўленне адзіночак.

Трагедыя партызанскага руху Беларусі ў тым, што перамагчы ў гэтай барацьбе не было наканавана: вельмі няроўнымі былі сілы. Тым не менш, памяць аб гэтых гадах вяртаецца зноў, таму што народ хоча ведаць праўду пра тое, якім коштам адбывалася так званае станаўленне савецкай улады.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 25.**

*РЭПАРТАЖ З ЛАТВІІ*

# ГУКІ РОДНАЙ МОВЫ ПАХНУЦЬ ВЕРАСАМ І МЯТАЙ

Што гэта сапраўды так, пераканаліся ўсе, хто 26 мая прыйшоў у Дом Саюза пісьменнікаў Латвіі. Тут адбылася сустрэча беларусаў, якія пражываюць у Рызе, Даўгаўпілсе, Ліепаі, Вентспілсе, з дарагімі гасцямі -- пісьменнікамі з Беларусі. Сустрэчу адкрыў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Латвіі Віктар Авотыньш.

Гоман беларускіх дубраў, сінь рэк і азёраў, меладычныя гукі сялян, што спраўляюць рытуал, каб ураджай на славу вырас, і прыход Купалля радасна вітаюць, -- усё гэта аднавіў у памяці дзіцячы хор пад кіраўніцтвам Сяргея Аленкіна. Ён выступіў адразу пасля афіцыйнай часткі сустрэчы.

Невялічкі канцэрт -- гэта яшчэ адна магчымасць зразумець глыбінную повязь традыцый двух народаў-суседзяў. Гэту ж тэму развіў у сваім выступленні Сяргей Панізьнік. Ён падкрэсліў ролю Яніса Райніса, які ў свой час абараняў інтарэсы беларусаў Латвіі, садзейнічаў збліжэнню нацыянальных культур беларусаў і латышоў. Пасеянае ім дае добрыя ўсходы нават і сёння. У якасці яскравага прыкладу С.Панізьнік назваў кнігі пісьменнікаў Латвіі, якія ўжо выйшлі на беларускай мове, і тыя творы, што ўслаўляюць дружбу двух народаў.

-- Для такой чыстасардэчнай дружбы не было і не будзе межаў, --сказаў латышскі паэт і перакладчык Андрыс Веянс. Яшчэ ў маладосці на яго зрабіла вялікае ўражанне беларуская мова і наогул паэзія. З цягам часу ён адчуў неабходнасць данесці да латышскага чытача ўсё тое, што і яго ўсхвалявала. Паспрабаваў перакласці на родную мову вершы Янкі Купалы -- атрымалася. Гэта, па словах самога А.Веянса, было сапраўдным адкрыццём. Асабліва яму ўдаўся пераклад паэмы Я.Купалы "Яна і я" -- твора на вострую сацыяльную тэматыку, вельмі блізкую той, райнісаўскай, што прагучала ў яго "Вей, ветрык!"

Максім Багдановіч, творчы лёс якога падобны на лёс латышскага сабрата па пяру Эдуарда Вейдэнбаума, таксама прыцягнуў увагу гэтага майстра перакладу з беларускай на латышскую мову. Аддаўшы патрэбнае М.Багдановічу, Андрыс Веянс з жалем адзначыў, што не змог перакласці Багдановічаву "Зорку Венеру". Проста няма яшчэ ў латышскай мове такіх сродкаў, каб і ў перакладзеным выглядзе гэты верш загучаў бы гэтак жа замілавана і прыгожа ды яшчэ і так, каб потым пакласці яго на музыку. Але жаль змяніла радасць: нечакана для ўсіх Андрыс Веянс зрабіў напеў даўнейшай латгальскай жартоўнай песні, якую любіў спяваць стары бацька паэта.

Ад сябе дададзім, што Андрыс Веянс вельмі добра пераклаў на латышскую мову вершы Рыгора Барадуліна, Анатоля Вярцінскага. Пачуў бы ты, Рыгор, як гучалі твае вершы ў Рызе! Але цябе не было сярод нас.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак расказаў беларусам Латвіі, як прайшоў такі ж вечар у Мінску, прысвечаны двум Янукам -- Райнісу і Судрабкалну. А цяперашнюю сустрэчу ў Доме пісьменнікаў Латвіі ён назваў цудоўным святам, якое падаравалі латышскія сябры беларускім пісьменнікам і беларусам Латвіі. Для яго гэта быў добры выпадак, каб з вялікім натхненнем прачытаць зроблены ім пераклад вершаў латышскіх паэтаў на беларускую мову. А потым была размова аб тым, што натхніла яго напісаць верш "Сустрэча з Райнісам". Вядома, такой сустрэчы не было, быў толькі беларускі селянін дзед Лявон, удумлівы, умудроны жыццёвым вопытам. Ён многімі рысамі нагадваў паэту Яна Райніса. Параўнанне, толькі крышачку домыслу -- і вось ужо ёсць верш, і ў ім быццам жывы Янка-Лявон.

Здзіўляешся таму, колькі агульных каранёў ёсць у абодвух народаў. Гэта не можа не спрыяць стварэнню добрых і праўдзівых твораў.

Аб дружбе, дабраце беларусаў, аб іх чыстасардэчных пачуццях гаварылі на сустрэчы перакладчыкі Талрыдс Руліс, Мірдза Абала, Ая Лацэ, Вячка Целеш, паэты Кнутс Скуеніекс, Яніс Сірмбардзіс і інш.

Вялікай павагай да беларусаў было пранікнута выступленне латышскага паэта і перакладчыка Марыса Чаклайса. Ён таксама з'яўляецца перакладчыкам вершаў беларускіх паэтаў, у прыватнасці, Рыгора Барадуліна і Анатоля Вярцінскага.

І вось ужо зроблены пераход ад беларускай паэтычнай школы да дыпламатычнай. Слова ўзяў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Латвіі Валянцін Вялічка. Традыцыі двух народаў, сказаў ён з задавальненнем, уваскрашаюцца. Вось хоць бы такі прыклад: на Віцебшчыне пройдуць Дні Латвіі, будуць і іншыя мерапрыемствы. Мае дачыненне да таго, аб чым гаварыў пасол, і рашэнне ўрада Беларусі: дзеці беларускай дыяспары Латвіі змогуць атрымаць бясплатную вышэйшую адукацыю ў ВНУ на сваёй радзіме -- Беларусі.

А завяршыў сустрэчу мастацкі ансамбль беларускай дыяспары "Надзея". Прагучалі беларускія народныя песні -- лірычныя і жартоўныя, фальклорныя, абрадавыя напевы. Удзельнікі ансамбля гэтым самым як бы пацвердзілі тое, аб чым гаварылі многія выступаючыя: "Гукі мовы беларускай сапраўды пахнуць верасам і мятай", яны кранаюць сэрцы людзей.

**Лявон ШАКАВЕЦ.**

Рыга.

## ХРОНІКА МАБ

### "ЯЎРЭЙСКАЯ КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ"

У Мінску адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя "Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі". Яе арганізатарамі выступілі Аб'яднанне яўрэйскіх арганізацый і абшчын Беларусі, Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, Згуртаванне прадпрымальнікаў Беларусі, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Міжнародная асацыяцыя "Джойнт", Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны. У канферэнцыі бралі ўдзел вучоныя з Беларусі, Вялікабрытаніі, ЗША, Ізраіля, Літвы, Польшчы, Расіі.

Канферэнцыя з'явілася першым міжнародным форумам, на якім разглядалася шырокае кола пытанняў, звязаных з культурнымі ўзаемасувязямі беларусаў і яўрэяў, а таксама іншых народаў Беларусі. На жаль, на працягу многіх гадоў гэтыя сувязі замоўчваліся, а развіццю беларускай, і асабліва яўрэйскай, культуры не надавалася вялікай увагі. У сённяшняй Беларусі неабходна ўзнавіць дыялог і ўзаемаразуменне паміж усімі грамадзянамі Беларусі.

Удзельнікі канферэнцыі працавалі ў дзвюх секцыях: гісторыка-сацыяльнай і філалагічна-мастацкай.

Найбольш цікавымі былі даклады: Джона Кліера (Лонданскі універсітэт) "Яўрэйскае самакіраванне ў Мінску перад і пасля падзелаў Рэчы Паспалітай", Уладзіміра Конана (Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны) "Біблейскія вобразы і матывы ў беларускім фальклоры", Святланы Палуцкай (Гродзенскі універсітэт) "Прававое становішча яўрэяў паводле статутаў Вялікага Княства Літоўскага", Віталя Зайкі (Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны) "Фарміраванне літвацкага субэтнасу ашкеназскага яўрэйства", Аляксея Пяткевіча (Гродзенскі універсітэт) "Яўрэйскія пісьменнікі Гродзенскага рэгіёна (першая палова XX стагоддзя)".

Удзельнікі канферэнцыі падтрымалі ідэю аб стварэнні яўрэйскага сектара пры Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны ў Мінску, а дакладней, аднаўлення таго сектара, які быў у 20-я гады ў Інбелкульце, а пазней пры Беларускай акадэміі навук.

Знайшла падтрымку і ідэя аб стварэнні пры БДУ структуры (групы, творчага калектыву), а пазней, па меры развіцця, -- кафедры па вывучэнню культуры яўрэяў Беларусі і яўрэйскай цывілізацыі ўвогуле, якая таксама вяла б выкладчыцкую дзейнасць і мела б свае навуковыя і навучальныя планы.

Матэрыялы гэтай навуковай сустрэчы, а таксама даведнікі па яўрэйскай культуры Беларусі, анталогію яўрэйскай паэзіі трэба выдаць як мага хутчэй.

Навуковая канферэнцыя "Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі" з'явілася пачаткам паглыбленага даследавання праблемы ўзаемадачынення беларускай і яўрэйскай культур. Навукоўцы прыйшлі да высновы аб неабходнасці склікання міжнародных навуковых канферэнцый па праблемах беларускіх яўрэяў як у Беларусі, так і ў замежжы.

Дабрадзеямі канферэнцыі былі Міжнародная арганізацыя "Джойнт", Фонд "Сорас -- Беларусь", фірма "Асанна", Фрунзенскі райвыканком Мінска. Аргкамітэт, удзельнікі і госці канферэнцыі выказалі шчырую падзяку дабрадзеям.

### НОВЫ ТОМ "БЕЛАРУСІКІ"

У выдавецтве "Навука і тэхніка" выйшла з друку трэцяя кніга "Беларусікі" -- органа Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны. Яна прысвечана праблеме "Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне". Тут змешчаны разнастайныя матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Рым-IV", што адбылася прыкладна год таму ў Гродне, і канферэнцыі "Беларуска-польскае ўзаемадзеянне ў грамадска-палітычнай, культурнай і адукацыйнай сферах" (Брэст, красавік, 1993 г.). Сярод аўтараў -- вучоныя з Беларусі, ЗША, Літвы, Польшчы і Расіі.

У канцы зборніка ёсць раздзелы "Скарыназнаўства", дзе з цікавымі публікацыямі выступаюць Генадзь Лебедзеў (Віцебск) і Яўген Неміроўскі (Масква), выбраныя даследаванні супрацоўнікаў Скарынаўскага цэнтра, а таксама даклад Эдварда Зайкоўскага, прачытаны ім на канферэнцыі ў Вільнюсе, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Зоські Верас.

### ЗБОРНІК КРАКАЎСКАГА СЛАВІСТА

Прафесар Ягелонскага універсітэта Здзіслаў Нядзеля -- ураджэнец Беларусі, з Празарокаў, што на Віцебшчыне. Ён часта бываў на радзіме, прысвяціў ёй вершы, сябраваў з Уладзімірам Караткевічам, нядаўна апублікаваў яго лісты. Маладыя беларускія даследчыкі, якія едуць у Кракаў дзеля пошукаў матэрыялаў, знаходзяць у асобе пана Здзіслава клапатлівага апекуна.

Днямі польскі вучоны даслаў у Міжнародны камітэт беларусістаў сваю апошнюю кнігу -- "Славістычныя літаратурныя даследаванні ад Рэнесанса да сучаснасці" (Кракаў, 1994). У яго ўвайшла праца "Польскія водгаласы беларускага нацыянальнага адраджэння ў 1905--1921 гг.", развагі пра творчасць Ф.Скарыны ў кантэксце раннерэнесанснага пісьменства. Беларускага чытача зацікавяць у зборніку артыкулы "Мар'ян Здзяхоўскі як даследчык чэшскай літаратуры" (гаворка тут ідзе пра ўраджэнца і жыхара Ракава з-пад Мінска) і "Славацкая паэма пра Барбару Радзівіл" (аналізуецца твор Людавіта Кубані).

**Алеся БЕЛАВУСАВА,**
**рэферэнт МАБ.**

**65**

Падпольны камітэт так і не знайшоў падстаў, каб падняць жыхароў Вільні на паўстанне і захапіць горад у свае рукі. Гэта зніжала эфектыўнасць яго кіраўніцтва.

**АБЛОГА ВІЛЬНІ.** Выступленне ў паветах прымяркоўвалася да сакавіцкага рэкруцкага набору і веснавых падатковых збораў. Хваляванні перадаваліся сялянам. Яны звязвалі сваю падтрымку паноў з вызваленнем ад усіх дзяржаўных павіннасцяў і з атрыманнем волі. У сакавіку-красавіку паўстанне ахапіла Віленскую губерню і частку Мінскай (паветы Дзісенскі і Вілейскі).

Вільня апынулася ў блакадзе паўстанцаў. Сувязь з Расіяй перарвалася. З боку Ашмян чакалася ваеннае падмацаванне, а там гаспадарыў абшарнік Парфірый Важынскі. 23 сакавіка пад яго кіраўніцтвам паўстанцы захапілі павятовы цэнтр і абяззброілі рускі гарнізон. Быў аб'яўлены рэкруцкі набор у паўстанцкае войска: ад кожных 20 душ мужчынскага полу па аднаму конніку і па два пехацінцы. Ксёндз Ясінскі ў аблачэнні хадзіў па мястэчках і вёсках з заклікам да святой вайны. Узброеныя сілы ашмянцаў выраслі да 1 300 пешых салдат, узброеных ружжамі, 500 коннікаў, 800 касіянераў. На чале іх стаяў былы палкоўнік французскай арміі Карл Пржэздзецкі. Шляхціц Зінкевіч сфарміраваў атрад валанцёраў пад назвай "адчайныя". Яны насілі чырвоныя плашчы паверх чорных мундзіраў, а на капелюшах, каўнярах і плашчах мелі выявы мёртвай галавы і скрыжаваных касцей. Парфірый Важынскі ўзначаліў павятовы ўрад, які абяцаў сялянам волю.

**66**

Прыкладна па такому ж узору разгортваліся падзеі і ў іншых месцах. У пачатку красавіка паўстанцы захапілі павятовы цэнтр Вілейку і сфарміравалі 3-тысячнае войска на чале са Станіславам Радзішэўскім. Узброеныя сілы Дзісеншчыны ўзначальваў палкоўнік польскага войска Валянцін Брахоцкі. Лік паўстанцаў павялічваўся, але яны не мелі кіраўнічага цэнтра, дзейнічалі разрознена. Вільня заставалася ў руках рускіх. Генерал-губернатар Храпавіцкі рызыкуе, але пасылае казакоў на чале з палкоўнікам Вярзіліным у Ашмяны, каб расчысціць шлях для войск з Расіі. Абаронцы Ашмян упарта змагаліся на гарадскіх вуліцах, стрэлы гучалі з вокнаў і з-пад стрэх. Нарэшце казакі злезлі з коней і ў пешым парадку пачалі "вычышчаць" дамы і вуліцы. Горад здаўся. Ад рук казакоў загінула каля 350 чалавек.

Віленскі цэнтральны камітэт вырашыў аб'ядноўваць сілы паўстанцаў. Адкладваць захоп сталіцы старадаўняй Літвы было ўжо нельга. Гэтую справу даручылі Залускаму, паўстанцкаму лідэру Упіцкага павета, і нават выслалі яму план штурму. Але новы кіраўнік марудзіў. Атрады паўстанцаў, што сцягваліся да горада, былі разбіты ўсё тым жа Вярзіліным. Сяляне амаль не супрацоўнічалі і беглі з поля бою. 12 красавіка ў Вільню прыйшла падмога. Час быў упушчаны.

**ПЕРАХОД ДА ПАРТЫЗАНШЧЫНЫ.** Стала відавочным, што ў класічных вайсковых бітвах паўстанцам прафесійных воінаў не перамагчы. Залускі распускае сваё войска па паветах для вядзення партызанскай барацьбы. Адначасова

**67**

ў Варшаву пасылаецца дэпутат за дапамогай. У красавіку-маі карныя атрады рассыпаліся ва ўсе бакі ад Вільні і распачалі сапраўднае паляванне на паўстанцаў. Страх і абвешчаная царская літасць вярталі сялян у свае хаты. Пасля майскага ўказа аб судовым пакаранні шляхціцаў і канфіскацыі іх маёнткаў за ўдзел у паўстанні прыціхлі і многія паны. Але тыя, што засталіся ў лясах, былі няўлоўнымі і невынішчальнымі.

Ашмянцаў абкладжылі з усіх бакоў, але яны прарваліся ў Вілейскі павет і там сумесна з мясцовымі ўзброенымі сіламі рабілі спробу адбіць у рускіх Вілейку. Пасля няўдачы аб'яднаныя атрады паўстанцаў зрабілі рэйд да Дзісны, захапілі горад і 3 дні ўтрымлівалі яго ў сваіх руках. А потым -- зноў лясы і ўцёкі ад пагоні. Сабраліся ля мястэчка Лужкі, што на Дзісеншчыне. Тут былі ашмянцы на чале з Пржэздзецкім, вілейцы на чале з Радзішэўскім. Далучыліся і паўстанцы з Свянцянскага павета, якімі кіраваў Барткевіч. Абмеркаваўшы становішча, вырашылі панам прабівацца да прускай мяжы, а касіянерам перайсці на тэрыторыю Віцебскай губерні, каб падняць там народ на барацьбу і адцягнуць увагу рускіх. Другую калону ўзначалілі браты Ігнацій і Фелікс Адахоўскія. Яны з ходу захапілі Лепель, але хутка былі разбіты. Першая калона прабілася ў Вількамірскі павет Ковенскай губерні і там далучылася да атрадаў польскага войска.

У партызанскі рух уключыліся студэнты Вільні, страціўшы надзею на хуткае вызваленне горада. Разам з імі ў лес прыйшлі 40 ра-

**68**

меснікаў, адвакаты, маладыя чыноўнікі, настаўнікі, ксяндзы, якія ў сваіх карэтах вывезлі з-пад носа ў рускіх зброю. Сабралася каля 450 чалавек, якіх узначальваў Змерык Станкевіч. Учынак віленскай моладзі мог стаць прыкладам для іншых маладых людзей. Таму рускія нястомна ганяліся за партызанскім атрадам Станкевіча, аж пакуль не разбілі яго 18 мая. Загінула больш 200 студэнтаў. Рэшта ж далучылася да вайсковых атрадаў, што ішлі з Царства Польскага.

Партызанскі рух перакінуўся і на Гродзеншчыну. Там яго ўзначаліў асабісты сакратар гродзенскага губернатара Красоўскі. Ён дзейнічаў у Белавежскай пушчы, сабраўшы вакол сябе леснікоў, лясную стражу, мясцовае сялянства. Пушча добра аберагала паўстанцаў. Там былі месцы, дзе ўвогуле не ступала чалавечая нага. Базай служыла Каралеўская Альтана, з якой рабіліся набегі на рускія транспарты. Ваеннае камандаванне паслала спецыяльны атрад, каб расправіцца з партызанамі. У мястэчку Белавежа 4 мая карнікі не знайшлі ні душы. Усе ўцяклі ў пушчу. Тады яны напалі на Каралеўскую Альтану, а ў гэты час паўстанцы захапілі сярод лесу рускі транспарт з 418 драбін і знішчылі яго. Рускія палічылі далейшае знаходжанне ў партызанскім стане небяспечным і вярнуліся ні з чым.

**ДЗЕЙНАСЦЬ ПАЎСТАНЦКІХ ВАЙСКОВЫХ ЗАГОНАЎ З ПОЛЬШЧЫ.** Для барацьбы з атрадам Красоўскага ў Белавежскую пушчу прыйшоў узмоцнены атрад рускіх, але нечакана для сябе замест партызан яны сустрэлі там добра

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

**69**

ўзброенае злучэнне польскага войска на чале з Дэзінарыем Хлапоўскім, якога паслалі на дапамогу літоўска-беларускім і жамойцкім паўстанцам. Рускія былі разбіты. Хлапоўскі рушыў на Свіслач, дзе да яго далучыўся адстаўны генерал Фадзей Тышкевіч са сваімі людзьмі, потым паўстанцы пагражалі Слоніму, дзе тады знаходзіўся намеснік Польшчы князь Канстанцін, 19 мая ўзялі Ліду, але за імі ўжо гналася царскае войска. І толькі ў Жамойці Хлапоўскі змог перавесці дух. З прыходам польскага генерала ў Жамойць там узнялася новая хваля паўстання. Узнікла пагроза і для Вільні і для Коўна. Толькі Хлапоўскі меў іншыя планы. Ён збіраўся рушыць паўз Вільню праз Мінск, Мазыр на Прыпяць, дзе ўжо даўно рыхтавалася паўстанне. Аднак план гэты адпаў, бо ў Жамойць прыбыў яшчэ адзін польскі генерал Гелгуд са сваім 12-тысячным войскам для агульнага кіраўніцтва паўстаннем.

Ужо ў Ковенскай губерні ён разбіў 5-тысячны корпус рускага генерала Сакена. Хутка войска Гелгуда павялічылася амаль удвая за кошт паўстанцаў з Жамойці і Літвы-Беларусі. Над рускім гарнізонам у Вільні зноў павісла небяспека. Але польскі генерал марудзіў, святкаваў перамогу, цешыўся уладай, з пагардай ставіўся да паўстанцаў. Незадаволеныя афіцэры патрабавалі перадачы галоўнага камандавання Хлапоўскаму. Гэты высокі, прыгожы мужчына быў у свой час ардынарцам у Напалеона і ўмеў выклікаць да сябе павагу. Пагроза згубіць уладу прымусіла Гелгуда паспяшацца. Але спрыяльны момант быў страчаны. У Вільню прыйшла

**70**

падмога. Тым не менш генерал рыхтаваўся да бітвы за горад. Была дамоўленасць з гараджанамі, што пры адступленні рускіх яны возьмуцца за зброю, разбураць масты, захопяць вайсковыя склады. 19 чэрвеня віленскія жанчыны-каталічкі рыхтавалі пачастунак і плялі вянкі для вызваліцеляў. Аднак рускае войска адбіла атакі Гелгуда, а затым прымусіла яго войска адступаць з вялікімі стратамі праз жамойцкія землі.

Пасля паражэння каля Шаўляя паўстанцкую армію падзялілі на тры часткі паміж генераламі Хлапоўскім, Дзямбінскім і Раландам. Польскія салдаты радаваліся хуткаму вяртанню на радзіму. Афіцэры злаваліся. Адзін з іх падскочыў да Гелгуда і стрэліў у яго з рэвальвера. У далейшым атрады Хлапоўскага і Раланда вымушаны былі перайсці мяжу і здацца прускаму ўраду. Толькі Дзямбінскі вярнуўся ў Варшаву са зброяй (22 ліпеня). Ён паўтарыў шлях Хлапоўскага праз Літву-Беларусь, толькі ў адваротным напрамку. У Навагрудскім павеце атрад Дзямбінскага меў падтрымку з боку паўстанцаў на чале з мясцовым прадвадзіцелем дваранства Іосіфам Кашыцам.

У ліпені яшчэ хваляваліся паўднёвыя паветы Мінскай губерні (Мазырскі, Пінскі, Рэчыцкі). У Белавежскую пушчу зноў пасылаецца польскі атрад Самуіла Ражыцкага на падтрымку паўстанцам. Але паноў і сялян Літвы-Беларусі ўсё менш прываблівала безнадзейная барацьба. Яны складвалі зброю і браліся за жніво. Да канца лета паўстанцкі рух паўсюдна прыпыніўся.

**71**

## 6.3. Што нам дала польска-руская вайна

**НІЯКІХ ШАНЦАЎ НА ПАЛЁГКУ.** Падзеі 1831 года мелі самае непасрэднае дачыненне да Літвы-Беларусі. Шляхецкая Польшча ваявала з Расіяй не толькі за сваю незалежнасць, але і за былое Вялікае Княства Літоўскае, гэта значыць і за літоўска-беларускія землі. Беларусаў чакала польская дэмакратыя замест расійскага дэспатызму. Іх не чакала толькі незалежнасць. Да яе тады нікому не было справы. І палякі не маглі даць беларусам тое, пра што яны самі не дбалі. Літве-Беларусі рыхтаваўся лёс польскай правінцыі. Цывілізаванае рабства, зразумела, было б лягчэйшым, аднак рабства яно і ёсць рабства.

Літоўска-беларускую шляхту гуртавала не нацыянальная, а імперская ідэя, пад сцягам якой і польскія лідэры вялі нацыянальна-вызваленчую барацьбу. Усе антырасійскія сілы задавальняла польская імперыя, якая толькі і магла супрацьстаяць імперыі царскай. У будучай вялікай Польшчы рэлігійных фанатыкаў і клерыкалаў прываблівала панаванне каталіцызму, рамантычную моладзь і шляхецкую інтэлігенцыю (у тым ліку і праваслаўную) -- перспектыва ўвядзення рэспубліканскага праўлення і далучэнне да еўрапейскай культурнай традыцыі. Яны і прынялі ўдзел у паўстанні на Літве-Беларусі ў падтрымку Царства Польскага. Тыя адраджэнскія працэсы, што закладваліся ў сценах Віленскага універсітэта, яшчэ не паспелі выкрысталізавацца ў незалежніцкую ідэю. А таму

**72**

пратэст літоўска-беларускага жыхарства супраць расійскага прыгнёту і ўліўся ў польскі нацыянальна-вызваленчы рух. Ім прыходзілася выбіраць паміж Польшчай і Расіяй. Трэцяга не было дадзена.

Мясцовая шляхта ўяўляла сабой яшчэ не вельмі спрыяльны матэрыял для фарміравання нацыянальнай эліты. Адны пралівалі кроў за Польшчу. Другія, больш прагматычныя і разважлівыя заставаліся вернымі рускаму ўраду. Іх задавальняў манархічны рэжым, які гарантаваў першаму саслоўю вядучае месца ў расійскім грамадстве.

Шляхта не мела нацыянальнай ідэалогіі, якая б дапамагла ёй узняцца над рэлігійнымі і саслоўнымі адрозненнямі ўнутры свайго этнасу. Гэта са шляхецкай свядомасці вынікалі ўяўленні, што католікі ёсць палякі, а праваслаўныя -- рускія. Адсутнасць разумення нацыянальнай еднасці з сялянствам перашкаджала шляхце пераадолець погляд на прыгонных, як на быдла. Каталіцкія шляхціцы ўвогуле ўсведамлялі сябе палякамі і змагаліся за польскую ідэю.

Паўстанне 1831 года мела выключна шляхецкі характар і па сваіх мэтах, і па складу ўдзельнікаў. Вузкі пласт інтэлігенцыі, што склаўся пасля вызваленчай вайны 1794 года, істотна не мяняў становішча. Інтарэсы сялянства практычна не ўлічваліся. Пра волю паны толькі гаварылі. А таму для беларускага селяніна было ўсё роўна, якое цярпець ярмо -- польскае ці рускае.

# ЯК ВЯРНУЦЦА БЕЛАРУСАМ У САМАСТОЙНУЮ ПАВАЖАНУЮ БЕЛАРУСЬ,

## ПАКАЗВАЕ СВАІМ ПРЫКЛАДАМ БЕЛАРУСКІ ТЭХНАЛАГІЧНЫ УНІВЕРСІТЭТ

Немагчыма сказаць, навошта яе Вялікасць Гісторыя павяла беларускую нацыю па шляху яе знішчэння як самастойнай расава-этнічнай і дзяржаўнай еднасці, якi пачаўся з 1401 года перагаворамі кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага аб дзяржаўнай уніі з Польшчай. У выніку шматлікіх паўтораў гэтага працэсу, вельмі сходнага з сучасным беларуска-расійскім, у 1569 годзе "Літоўска-Беларускае гасударство страціло можнасць змагацца далей і было прымушана здацца" (В. Ластоўскі, "Кароткая гісторыя Беларусі", Вільня, 1910 г., стар. 46). Адсюль ідуць вытокі далейшага безупыннага наступу на аснову беларускай нацыі -- мову. Спачатку сейм Рэчы Паспалітай выкінуў яе з дзяржаўнага ўжытку, а потым расійскі царскі ўрад афіцыйна забараніў указам ад 1839 года, а савецкія ўлады сілай выбівалі з беларусаў беларускую сутнасць, каб стварыць адзіны бязлікі, бяспраўны і бяздумны "советский народ".

Пэўныя прабальшавіцка-савецкія колы і зараз імкнуцца не толькі прадоўжыць, але завяршыць працэс дэбеларусізацыі Беларусі, зрабіўшы яго незваротным. Адзначанае добра відаць з адкрытых выказванняў упэўнена скіраванага на пасаду прэзідэнта Беларусі В. Кебіча. Ён у час сваіх урадава-прадвыбарных турнэ заяўляе, што "в случае победы на выборах... намерен укрепить вертикаль власти и провести референдум по вопросам государственных символов и языка" ("Известия", 25 мая 1994 г.). Калі ж улічыць, што амаль 100 працэнтаў кіраўнікоў у Беларусі з верху да нізу -- былыя камуністычна скіраваныя людзі, а беларускія пачуцці даўно ў вельмі многіх беларусаў выбіты, то няцяжка ўявіць, якімі могуць быць вынікі названага рэферэндуму. І толькі неадкладнымі ўзважанымі дзеяннямі можна ўратаваць беларускую нацыю. Галоўную ролю тут павінна іграць выхаванне ў навучэнцаў усіх узроўняў павагі да Беларускай Ідэі.

Гэта добра і даўно зразумеў рэктар Беларускага тэхналагічнага універсітэта прафесар І. Жарскі. Вось чаму ў нас упершыню ў Беларусі, яшчэ ў 1991 годзе, уведзена новая форма павышэння кваліфікацыі навукова-выкладчыцкага саставу праз створаны тут універсітэт беларускай мовы, гісторыі і культуры. Яго мэта -- павысіць грамадскі ўзровень выкладчыкаў і навукоўцаў праз пашырэнне іх аналітычных ведаў аб гісторыі і культуры Беларусі на фоне развіцця ўсіх цывілізацый чалавецтва і ўпэўненасці, што Беларусь была, Беларусь ёсць і Беларусь павінна быць. Вывучэнне беларускай мовы на ўзроўні, дастатковым для выкладання на ёй адпаведнай вучэбнай дысцыпліны, падрыхтоўка і абарона за час заняткаў выпускной працы на беларускай мове па вучэбнаму працэсу свайго накірунку, павышэнне навыкаў крытычнага мыслення ў адносінах да любых грамадскіх працэсаў і пашырэнне сувязей паміж асабістым і грамадскім жыццём, -- усё гэта задачы, якія вырашае універсітэт.

Праграма заняткаў разлічана на 500 гадзін на працягу навучальнага года. Для больш якаснага пранікнення ў гістарычныя падзеі арганізуюцца экскурсіі па мясцінах мінулага Беларусі (Мінск -- Мір -- Навагрудак -- Нясвіж; Мінск -- Віцебск -- Полацк -- Наваполацк). Для чытання лекцый запрашаюцца самыя адукаваныя па адпаведнай тэматыцы навукоўцы і творчыя работнікі іншых ВНУ, НДІ, творчых установ.

Вядома, што выкананне мерапрыемстваў універсітэта беларускай мовы, гісторыі і культуры патрабуе і пэўных матэрыяльных затрат. Але тры выпускі яго навучэнцаў паказалі, што такія затраты акупляюцца вялікай аддачай: усё больш і больш гучыць у нас беларуская мова і павялічваецца павага да яе, мова ўкараняецца ў вучэбны працэс, на яе пераводзіцца практычна ўся вучэбная і метадычная літаратура. Нельга не адзначыць павелічэнне праз універсітэт беларускай мовы, гісторыі і культуры грамадскай і творчай еднасці супрацоўнікаў, уцягванне іх у пошук шляхоў і метадаў рэалізацыі Беларускай Ідэі на карысць усяго грамадства.

Не забыты працэсам беларусізацыі ў нас таксама і вучэбна-дапаможны, навукова-абслугоўваючы і гаспадарчы персанал, пры універсітэце створаны пастаянна дзеючыя курсы па вывучэнню беларускай мовы для вядзення на ёй справаводства. Іх праграма выконваецца за 100-110 гадзін.

Наш універсітэт паказаў, што ў рэспубліцы не існуе праблем авалодання беларускай мовай у рускамоўнага насельніцтва, калі ставіцца да яе разумна. На гэты конт старшы навуковы супрацоўнік інстытута цепла- і масаабмену АН Беларусі Нэля Пашына сказала дакладна наступнае:

-- Моўнае пытанне ў Беларусі штучнае. Яно адразу знікне само сабой, калі ўладавыя структуры на ўсіх узроўнях паставяцца да яго належным чынам і спыняць бясконцыя паверхоўныя разважанні на гэтую тэму. Мяне гэта здзіўляе. Я, руская, ехала працаваць у Беларусь пасля заканчэння ВНУ ў Стаўрапалі. Ехала з павагай да беларускага народа. Закончыла тут аспірантуру і ніколі не адчувала хоць якіх-небудзь нязручнасцяў ад сваёй нацыянальнасці. Беларусь стала маёй другой радзімай. Чаму ж я павінна цурацца беларускай мовы, беларускай культуры, беларускай самабытнасці? Я здзіўляюся беларускаму кіраўніцтву, якое так непаважліва паводзіць сябе ў адносінах да роднай мовы.

Не менш памяркоўна выказаўся аб гэтым і прафесар Анвар Латыпаў, загадчык кафедры генетыкі і батанікі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (у Горках), татарын па нацыянальнасці.

-- Беларусь стала радзімай ужо і для маіх дзяцей. Чаму ж я павінен ваяваць супраць захавання беларускай нацыі, яе мовы?

Ён не проста засвоіў нашу мову, а распрацаваў беларуска-руска-іспанскі тлумачальны слоўнік па генетыцы і батаніцы, зараз стварае на беларускай мове адпаведныя вучэбныя дапаможнікі.

У заключэнне выкажу ўпэўненасць, што Бог не дапусціць новага прыгнечання беларускай нацыі і яе мовы. Бо калі гэтага даб'юцца сваімі дзеяннямі нашы вярхоўныя ўлады зараз, на мяжы поўнага знікнення мовы, то далей беларускае адраджэнне ўжо будзе проста немагчымым: адбудзецца асіміляцыя беларускай нацыі назаўжды. І ніякая эканамічная карысць ад саюза з Расіяй не стане апраўданнем таму. Беларусь павінна стаць самастойнай, раўнапраўнай і паважанай часткай сусветнага супольніцтва. І рускія наогул (не кажучы ўжо пра тых, хто жыве ў Беларусі) павінны дапамагчы гэтаму.

**Аляксей САЛАМОНАЎ, доктар тэхнічных навук, прафесар, загадчык універсітэта беларускай мовы, гісторыі і культуры пры БДТУ.**

**НА ЗДЫМКУ:** уручэнне дыпломаў сёлетнім выпускнікам універсітэта.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# СТВОРАНА НОВАЕ ЗГУРТАВАННЕ

У спісе адраджэнскіх грамадскіх арганізацый -- папаўненне. Створана Згуртаванне навагрúдцаў свету.

Гэта стала вядома, калі ў Навагрудку прайшоў установчы сход, на які прыехалі дэлегаты з усёй Беларусі і з-за яе межаў. Былі тут вядомыя вучоныя, гісторыкі, пісьменнікі, работнікі культуры, прадстаўнікі ўлад, госці.

Мэта згуртавання -- адрадзіць былую славу старажытнага навагрудскага краю, спрыяць рашэнню вострых праблем. А іх нямала. Гэта, у першую чаргу, экалогія: шэраг вёсак раёна пацярпелі ў выніку чарнобыльскай аварыі, забруджаны радыенуклідамі, перасыхаюць рэкі з-за безгаспадарчай дзейнасці людзей. Шмат праблем і ў іншых сферах: трэба адрадзіць народныя промыслы, наладзіць турызм.

Пра розныя бакі дзейнасці новастворанага згуртавання гаварылі ўдзельнікі сходу. А паклаў пачатак выступленням вядомы гісторык Мікола Ермаловіч. Хаця ён і не з'яўляецца ўраджэнцам Навагрудчыны, Мікалай Іванавіч многія дзесяцігоддзі збіраў матэрыялы па гісторыі гэтага краю, выдаў навуковую працу, прысвечаную ёй. Адным з першых змог назваць год нараджэння горада, заснаванага Яраславам Мудрым дзевяцьсот пяцьдзесят гадоў назад.

Яўген Лецка -- галоўны арганізатар згуртавання, нагадаў прысутным аб славутых земляках, якія жывуць і працуюць далёка за межамі нашай дзяржавы, чые імёны ведае ўвесь свет. Гэта і Барыс Кіт, і Янка Запруднік, і Ала Орса-Рамана, і Міхась Навумовіч... Падкрэсліў, што ў згуртаванне можа ўступіць кожны -- нават не толькі ўраджэнец Навагрудчыны, калі ён жадае працаваць на карысць гэтага краю.

Аб тым, як дружна жывуць на Навагрудчыне людзі розных веравызнанняў і нацыянальнасцей, гаварылі пробашч навагрудскай парафіі ксёндз Антоні, старшыня мусульман раёна Мустафа Смольскі. Мікола Нікалаеў працуе ў Санкт-Пецярбургу, а Аляксандр Каляда ўзначальвае суполку землякоў "Світанак" у Кіргізіі. І ўсюды, казалі яны, ёсць навагрудчане, якія гатовы ўступіць у згуртаванне, каб далучыцца да адраджэння роднага краю.

Сход прыняў рашэнне звярнуцца да Барыса Кіта з прапановай даць згоду стаць ганаровым прэзідэнтам Згуртавання навагрáдцаў свету, а старшынёй абраны Яўген Лецка, які нядаўна ўзначальваў ЗБС "Бацькаўшчына".

# ЦІ ВЫКАРЫСТАЕМ СВОЙ ШАНЦ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

-- *Пасля вайны адседзець?*

-- Так, пасля **вызвалення з нямецкай акупацыі.** І ў даведцы, якую атрымаў, напісана было: 140-вы лагер НКВД. А ў партызанах я быў начальнікам штаба ў брыгадзе імя Заслонава, скалечаны. Вядома, што нават штрафнікам даравалі пасля першай крыві. А мяне пасля універсітэта ў аспірантуру не прынялі, і амаль да апошняга часу адчуваў над сабой нейкі ціск.

-- *А як вы з палону вызваліліся?*

-- Тройчы ўцякаў. І за трэцім разам удалося збегчы недзе пад Смалявічамі. Адтуль прыйшоў у Оршу. Гэта мае родныя мясціны.

Мяне яшчэ ў партызанах здзіўляла, чаму нас так дрэнна забяспечвалі зброяй, не хапала боепрыпасаў, медыкаментаў. Узброены былі тым, што знаходзілі ў лясах пасля Чырвонай Арміі ці бралі ў ворага, але немцы былі салдаты адменныя, і ў іх не надта што возьмеш. Толькі потым я зразумеў, што Сталін не давяраў партызанам, таму што армія гэта ўзнікла не непасрэдна па яго загаду, не з тых людзей, што былі пакінуты ў тыле, а па ўласнаму жаданню. Сапраўдная партызанская вайна разгарнулася вельмі шырока ў Беларусі дзесьці ў 43-м годзе, калі людзі ўбачылі і пераканаліся, што прышэльцы страшней за тых, хто быў тут да іх.

-- *Страшней, чым тая ўлада, што была да вайны?*

-- Так, страшней. Мяне моцна ўразіў выпадак на рынку ў Оршы, калі я ўбачыў, як немец б'е нагой жанчыну, якая магла быць яму за матку. Беларус ніколі не пне выспеткам карову ці каня, а тут жанчыну. Мяне гэта ўразіла больш, чым расстрэл. Тады я зразумеў, што з немцамі не можа быць ніякіх кантактаў.

-- *Аднак існуе і такая тэза, што партызаны -- гэта людзі, пакінутыя для помачы органам.*

-- Добра, што вы пра гэта спыталі. Бальшавікі так хацелі прадставіць партызан, што быццам бы яны былі памочнікамі НКВД і ваявалі супраць здраднікаў. Мы ж ваявалі супраць немцаў, хаця іншы раз даводзілася і супраць паліцаяў. Мы разглядалі іх як прыцўнікаў, бо час быў ваенны, а яны надзелі варожую форму. А тое, што іх было многа, толькі пацвярджае ацэнку Быкава і Адамовіча, што тут была грамадзянская вайна.

Я не згодзен з Туронкам у яго ацэнцы партызанскай вайны на Беларусі, бо яна якраз супадае з ацэнкай камуністычнай, што, маўляў, партызанскі рух быў арганізаваны кампартыяй, а беларусы толькі тое і рабілі, што хаваліся то ад партызанаў, то ад немцаў. Крайнасці, як заўсёды, сыходзяцца.

-- *І яшчэ, на вашу думку, ці справдлівае меркаванне, што насельніцтву было больш шкоды ад партызан, чым ад немцаў? Партызаны забіралі хлеб, свойскую жывёлу, з-за іх немцы палілі вёскі...*

-- Усякія выпадкі былі, на тое яна і вайна. І я бараню не таму, што сам быў партызанам,але здзіўляюся, што ўвогуле мала было непрыемных эксцэсаў з насельніцтвам. Леў Талстой не прымаў насілля, але народную вайну супраць Напалеона апісвае з сімпатыяй. І пры ўсёй сваёй любві да Платона Каратаева захапляецца Дзянісам Давыдавым, ніводным словам не папракае яго. А "издержек", канешне, хапала. Вайна ёсць вайна.

-- *Сапраўды, ваш расказ пацвярджае думку, што беларусы зусім не такія ўжо бесхрыбетныя і ў цяжкую хвіліну*



**19 чэрвеня ў дзень Святой Тройцы Беларусь віншавала з 70-годдзем Васіля Быкава, чалавека, які некалі, у самыя "маўклівыя" гады, даў нам, акрамя вядомых 10 запаведзяў, яшчэ адну, адзінаццатую: "Не бойся! Не бойся праўды! Не бойся таго, што цябе за яе пакараюць, не бойся гнеўных крыкаў высокага начальства і самадурства цэнзараў, бо адказнасць сапраўдны мастак нясе не перад імі, а перад сумленнем і сваім народам".**

**У гэты дзень у скверы Янкі Купалы адбылося сапраўднае народнае свята ўшанавання выдатнага пісьменніка, па творах якога ўжо зараз новыя пакаленні складаюць сваё ўяўленне аб самай страшнай гістарычнай падзеі XX стагоддзя -- другой сусветнай вайне.**

## "ЛІЦВІНЫ" Ў ПОЛЬШЧЫ

10--12 чэрвеня ў Торуні (Польшча) адбылася XIV Міжнародная сустрэча народных капэлаў з выкарыстаннем эсперанта як моўнай платформы. У сустрэчы бралі ўдзел звыш тузіна калектываў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Расіі, Чэхіі, Балгарыі, Галандыі. Беларусь прадстаўлялі гурты "Ліцвіны" (Мінск) і "Гасцінец" (Гродна). "Ліцвіны" (кіраўнік Уладзімір Бярбераў) здабылі прыз арганізатараў Этнаграфічнага музея ў Торуні за мастацкія вартасці і аўтэнтычнасць выканання. Ім жа дастаўся прыз спонсараў -- фірмы Ва-Ма, прызначаны для самых сімпатычных дзяўчат.

Торуньскія Спатканні адбываюцца з 1980 года. Ад пачатку іх вызначае разняволенасць і непасрэднасць у стасунках між музыкамі і публікай: запрошаныя групы дэманструюць сваё майстэрства на музейнай сцэне, у этнаграфічным парку альбо на вуліцах Старога места, не дбаючы аб ацэнцы журы, а часта запрашаючы публіку да супольных скокаў і спеваў. Яшчэ адна рыса торуньскіх Спатканняў -- выкарыстанне міжнароднай нейтральнай мовы эсперанта. Гэтая мова і міжнародны рух эсперантыстаў ужо чатырнаццаты раз дапамаглі прыехаць у Торунь шмат якім цікавым капэлам. Кожная замежная група прыязджае з эсперантыстам-перакладчыкам. Ужыванне адной нейтральнай мовы дае ўсім групам аднолькавыя магчымасці для паразумення, дазваляе значна зменшыць фестывальныя выдаткі і ставарае адмысловую сяброўскую атмасферу. Арганізатары імкнуцца запрашаць на Спатканні найбольш традыцыйныя, аўтэнтычныя, нестылізаваныя гурты. Прага этнаграфізму відаць і ў тым, што нават канферанс вёўся не на літаратурнай польскай мове, а на гуральскай гаворцы, зрэшты, для ўсіх (апрача замежных гасцей) добра зразумелай.

Пасля заканчэння Спатканняў у Торуні капэлы раз'ехаліся з канцэртамі па розных гарадах і вёсках. "Гасцінец" канцэртаваў у Быдгашчы, а "Ліцвіны" -- у вёсцы Шварцэнова (гміна Біскупец, Торуньскае ваяводства). Прыём быў гарачы і сардэчны.

**Мікалай РАМАНОЎСКІ.**

# АМАРАЛЬНАСЦЬ -- ДУХОЎНЫ СНІД

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**-- Мабыць, праблема маралі для палітыкаў здаецца другараднай, бо прасцей заваяваць галасы выбаршчыкаў абяцаннем дабрабыту...**

-- І гэта амаральна, бо галоўная функцыя кіраўніка дзяржавы -- арганізаваць жыццё грамадства так, каб яно было ў стане бараніць чалавека ад злачынстваў, ад знявагі яго годнасці, гэта значыць ад амаральнасці.

**-- БРАМА -- не палітычная і не рэлігійная арганізацыя. Але ж, калі яна збіраецца выходзіць на дзяржаўны ўзровень, то як можа існаваць па-за палітыкай!**

-- Мы не сцвярджаем сваю апалітычнасць, мы адмаўляемся ад палітычных мэтаў. Гэта значыць, што БРАМА не збіраецца ўваходзіць у органы ўлады і будзе захоўваць у палітыцы нейтралітэт. Аднак мы пакідаем за сабой права разглядаць праблемы палітыкі праз прызму маральнасці і даносіць да грамадскасці і да ўрада сваю пазіцыю, выпрацаваную разам з спецыялістамі па этыцы, сацыялогіі, псіхалогіі і на іншых нашых канферэнцыях, семінарах.

**-- Сёння ствараецца вялікае мноства грамадскіх арганізацый, фондаў. Большасць з іх маюць канкрэтную накіраванасць -- дапамога дзецям, інвалідам. Ваша ж асацыяцыя мае агульнаэтычны напрамак. Чым, на ваш погляд, тлумачыцца перавага такой пазіцыі!**

-- Па-першае, БРАМА адкрыта для кантактаў з усімі, хто, як і мы, заклапочаны праблемай разбэшчанасці ў грамадстве. Члены асацыяцыі могуць уваходзіць у партыйныя, рэлігійныя арганізацыі. Гэта ўнутранае права кожнага. Мы разумеем, што духоўнае і маральнае адраджэнне -- не прывілея гурта людзей, а жыццёвая неабходнасць для развіцця ўсяго чалавецтва.

Па-другое, я прызнаю важнасць і неабходнасць існавання грамадскіх арганізацый. Аднак бачу, што ў тэндэнцыі дапамагаць пэўным людзям ёсць небяспека адысці ад вырашэння глабальных праблем. Мне гэта нагадвае індульгенцыі. Чалавек мог грашыць, потым купіць індульгенцыю і быццам бы пазбавіцца такім чынам ад граху. Сёння палітыкі, прадпрымальнікі дапамагаюць збяднелым людзям, добра разумеючы, што тым самым ствараюць неабходны ім аўтарытэт у грамадстве, робяць сабе рэкламу. Дробная дапамога і мецэнацтва -- добрая з'ява, і развіццё такой дзейнасці можна толькі падтрымліваць. Аднак гэта не вырашэнне праблемы. БРАМА выступае за карэнны разгляд пытання і асабліва ягонага маральнага боку. Дзяржава паводзіць сябе амаральна і ўхіляецца ад сваіх абавязкаў, калі нейкі фонд фінансуе аперацыю хвораму дзіцяці, а ў гэты момант паміраюць сотні іншых, і ім ніхто не дапамагае. Я добра памятаю, колькі калек было пасля Айчыннай вайны на вуліцах беларускіх гарадоў. Пазней былі ўведзены льготы для ветэранаў. Ці этычна гэта ў адносінах да тых, пра каго пасля вайны ніхто не клапаціўся?

Наша асацыяцыя выступае за неабходнасць такой дзяржаўнай палітыкі, якая б змагалася з амаральнасцю. Павінна давацца ацэнка маральнасці ўсіх дзяржаўных акцый. Дзяржава не павінна сваёй палітыкай сеяць нянавісць сярод людзей. А так адбываецца. Працэс прыватызацыі -- прыклад таму. Моладзь, якая працуе на прадпрыемстве, мае права на ягоную прыватызацыю, а пенсіянеры, што адпрацавалі на ім шмат год, -- не. Гэта таксама амаральна. Паколькі чалавек -- частка арганізма дзяржавы, то, калі амаральная яна, ён таксама амаральны. Так быць не павінна. Некаму ж трэба звяртаць увагу на праблему этыкі ў грамадстве, бо калі ўсе мы будзем маўчаць, яно дэградзіруе.

**-- Да чаго будзе зводзіцца канкрэтная праца асацыяцыі БРАМА!**

-- Канферэнцыі, семінары, якія мы праводзім, -- гэта неабходная падрыхтоўка да асноўнай працы. Мы збіраемся ствараць і падтрымліваць структуры, арганізацыі, якія прызнаюць нашы мэты. Вельмі хацелася б распачаць дзейнасць па выданню перыёдыкі і кніг, рыхтаваць спецыялістаў у галіне гуманітарных навук, якія б маглі папоўніць актыў нашай асацыяцыі. Дарэчы, у складзе інстытута сучасных ведаў, які існуе ў Мінску чацвёрты год, працуе гуманітарны факультэт. Некаторыя з ягоных выкладчыкаў сталі членамі асацыяцыі. Факультэт рыхтуе сацыяльных работнікаў са спецыялізацыяй -- арганізацыя сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі.

У мяне ёсць задума заснаваць маральную экспертызу законапраектаў. Нехта павінен кантраляваць маральнасць укладання сродкаў дзяржавы ў розныя праекты. Яна, напрыклад, фінансуе тэатр, кінематограф. Падаткаплацельшчык мае права разлічваць; што фільм ці спектакль, зняты на грошы дзяржавы, будзе не разбураць, а ахоўваць яе мараль і інтарэсы.

Мы хацелі б у будучыні ствараць свае структуры па рэгіёнах Беларусі. Зразумела, гэта будзе каштаваць грошай. Таму мы шукаем людзей, якіх цікавяць нашыя справы і якія ў стане нам дапамагчы.

**-- Мабыць, у свеце няма краіны, якая б адолела цалкам маральныя праблемы... Усюды расце злачыннасць, колькасць разводаў, наркаманія і алкагалізм.**

-- На жаль, гэта факт. Я не так даўно быў у Швейцарыі. Мяне ўзрушыла, што краіна з такім высокім узроўнем займае адно з першых месцаў у свеце па колькасці самагубстваў. Псіхіятрычныя клінікі там перапоўнены моладдзю. Вопыт Швейцарыі паказвае, што нельга вырашаць праблемы эканомікі і палітыкі абстрагавана ад пытанняў маралі. Мы можам павысіць узровень жыцця. Чалавек пабудуе дом, купіць машыну, але маральныя праблемы ў яго застануцца, бо калі ён згубіць арыенціры ў жыцці, то апынецца ў пустэчы, наблізіцца да бездані. Дарэчы, там на Захадзе звязваюць надзею на маральнае выратаванне чалавецтва менавіта з еўразійскім рэгіёнам. Іх сумны вопыт запэўніў мяне яшчэ раз, што мы абавязаны адраджаць і берагчы духоўную спадчыну, якую маем.

**Алена СПАСЮК.**

---

*гатовы пастаяць за сябе.*

-- Што тычыцца апошняй вайны, то нас можна параўнаць з Югаславіяй, у вызваленні якой вялікую ролю адыграла армія Ціта. І ў нас супраціўленне было, хаця без падтрымкі арміі агульная перамога была б немагчымай, бо з немцамі жарты кепскія былі.

*-- Некаторыя нашы палітыкі вельмі часта сёння паўтараюць, што без Расіі мы не пражывём. Наша выратаванне толькі ў еднасці з ёю. Якая ваша думка на гэты конт?*

-- Я думаю, і гэта пацверджана не раз, што мы можам жыць незалежна ад Расіі, ва ўсякім разе палітычна.

*-- Як любая іншая краіна?*

-- Як любы іншы народ. Не варта думаць пра беларусаў, што мы не здольныя мець суверэнітэт, дзяржаўнасць. Што тычыцца эканомікі. Гэта марксісцкія шоры, быццам галоўнае -- эканоміка. Мне здаецца, і гэта можна даказаць, што нашы няшчасці ў эканоміцы больш як на 50 працэнтаў абумоўлены духоўнымі прычынамі, падзеннем маралі, падзеннем абавязковасці перад дзяржавай, людзьмі. Карані бездухоўнасці закладваліся, калі духоўнае жыццё было ідэалагізавана. За 70 гадоў адбылося і фізічнае знішчэнне эліты беларускай інтэлігенцыі, насаджалася пачуццё правінцыялізму. З нас рабілі правінцыялаў. Нават такі паважаны чалавек, як акадэмік Ліхачоў, выступіў у друку, гаворачы, што не варта расцягваць культуру "па мядзведжых кутах". Мы таксама, значыць, мядзведжы кут. Праўда, потым ён паправіўся.

Дык вось лічу, што ў цэлым мы можам стварыць сваю дзяржаўнасць. Зараз нас выратуе толькі самастойнасць, самастойнасць дзяржаўная і культурная, бо гэта два бакі адной манеты. Дзяржаўны суверэнітэт -- юрыдычная форма, а рэальны яго змест -- менавіта культура і самасвядомасць. У паняцце культуры эканоміка ўваходзіць істотнай састаўной часткай. Калі нехта збіраецца выводзіць краіну з крызісу і спасылаецца толькі на эканоміку, то дабра з гэтага не будзе.

*-- Я з вамі згодна, але маю вялікае сумненне наконт таго, што мы здолеем гэта зрабіць. Сярэднестатыстычны жыхар Беларусі вельмі абыякавы і да культуры, і да роднай мовы, і, наогул, да самога паняцця нацыянальнае. Ці ёсць надзея, што мы хоць калі-небудзь адчуем сябе народам?*

-- Адразу, раптоўна нельга чакаць нейкіх станоўчых вынікаў. Існуе нават небяспека, што калі пачаць праводзіць гэтыя ідэі, як бальшавікі праводзілі свае ідэі ў 17-м,...

*-- Супраціўленне будзе моцнае...*

-- Так, будзе моцным супраціўленне, альбо вырадзіцца сама ідэя. Магчыма катастрофа, калі пачаць сілаю праводзіць нацыянальную ідэю. Работы тут на доўгія гады, але і адмаўляцца ад яе не трэба, быць хвасцістам, чакаць, пакуль усё прыйдзе само сабой. Калі гісторыя дае шанц, яго варта выкарыстаць. І тут вялікая роля належыць інтэлігенцыі. Мяне заўсёды абнадзейвае прыклад з гісторыі. У старажытным Рыме, я гэта часта паўтараю, быў страшны распад. Нездарма імёны Нерона і Месаліны сталі хадзячымі назвамі. І ў гэты час з'явіліся дзівакі з рымскай правінцыі, нейкія хрысціяне. Іх было мала, але яны хадзілі сярод людзей і распаўсюджвалі свае ідэі. Так з'явілася хрысціянства. Яно паўплывала на ўсю Еўропу так, што па сутнасці ўся еўрапейская культура дагэтуль хрысціянская. Марксізм за 70 гадоў лопнуў, як пустышка, а хрысціянства існуе ўжо 2 000 гадоў, хаця была інквізіцыя, быў нейкі грэх. І ўсё ж хрысціянства ўздзейнічае не гвалтоўна, а словам. Сярод цяперашніх прэтэндэнтаў на пост прэзідэнта ў Беларусі фігура Зянона Пазьняка, здаецца мне, найбольш адпаведная задачам, што стаяць перад намі. Ён якраз удала спалучае слова з рашучасцю. І можа гэта не ў такім палітычна-канкрэтным сэнсе. Але ў яго глыбінныя, рэальныя шанцы, таму што ён арыентуецца на хрысціянскую дэмакратыю, якая сцвярджае гармонію эканомікі і духоўнай культуры. Мне ж, як эстэтыку, гэта вельмі блізка, бо ў свой час я праз эстэтыку шукаў гарманічнага чалавека, умовы, пры якіх чалавек можа стаць гарманічным.

*-- Мікалай Ігнатавіч, дык якім жа вам бачыцца шлях Беларусі ў будучыню?*

-- Тут я ўжо буду гаварыць у нейкім сэнсе як прадстаўнік невялічкай па памерах, але партыі, якая сябе нават не называе партыяй, а хрысціянска-дэмакратычнай злучнасцю. У яе вялікія магчымасці і вялікія перспектывы, можа, нават большыя, чым у нашых калег па барацьбе -- сацыял-дэмакратаў. У нас больш далёкая перспектыва і большы спектр магчымасцей, пачынаючы з рыначнай эканомікі і канчаючы хрысціянскім сацыялізмам. Народ спужаўся чыста рыначных адносін, у выніку якіх з'явілася кампрадорская буржуазія, калі ніхто нічога не стварае, а толькі пераразмяркоўвае, з'явіліся мільянеры і бабулі на цэментнай падлозе ў вулічных пераходах.

Такога быць не павінна. На варце інтарэсаў звычайнага чалавека павінна стаяць дзяржава, якая трымае ў руках культуру, адукацыю, выхаванне, медыцыну, усё тое, што называецца грамадскімі дабротамі, якія не могуць прадавацца і абменьвацца. Дзяржава, калі хочаце, трымае ў руках мараль праз права, бо мараль -- гэта матэрыялізаванае права. Дзяржава не машына для падаўлення супрацьлеглых класаў, а рэальнасць маральнай ідэі, як гаварыў Гегель. А рэальнасць -- гэта **сацыяльная** рыначная эканоміка, забяспечаная дзяржавай, якая сочыць, каб не было манапалізму, спекуляцыі ў дрэнным сэнсе, каб была справядлівасць і ў той жа час не душылася асоба і яе ініцыятыва.

*-- Цудоўная праграма і цудоўная будучыня. Толькі ў сённяшнім бязладдзі яна ўяўляецца мне такой далёкай і нерэальнай, як сонечны горад Кампанелы. Але я бачу, што вы перакананы ў правільнасці сваіх ідэй, і таму жадаю вам і вашай партыі поспехаў.*

**Гутарку вяла**
**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

## ФАЛЬКЛОРНЫ ФЕСТЫВАЛЬ



**У Пінску прайшоў І Міжнародны фестываль фальклору. Сваё майстэрства паказаў на ім і ансамбль танца "Пінская шляхта". Гэты калектыў зусім малады, яму няма і года. Створаны ён пры Пінскім вучылішчы мастацтваў. Аднак аўтарытэтная камісія, паглядзеўшы праграму ансамбля, ацаніла высокае майстэрства самадзейных артыстаў і паставіла іх упоравень з лепшымі фальклорнымі калектывамі рэспублікі. Гэта і дазволіла маладым пінчанам выступіць на прэстыжным фестывалі.**

**НА ЗДЫМКУ: танцуе "Пінская шляхта".**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

## СПОРТ

ХАКЕЙ. Завяршыўся розыгрыш кубка Стэнлі сярод каманд НХЛ. Галоўнымі дзеючымі асобамі на ім сталі іграні былога СССР: П.Бурэ, С.Нямчынаў... Прыемна, што ў ліку лепшых названы і выхаванец беларускага хакея С.Фёдараў. А ганаровы трафей дастаўся камандзе "Рэйнджэрс" з Нью-Йорка.

ФУТБОЛ. Чэмпіёнам Беларусі датэрмінова сталі мінскія дынамаўцы. Шмат гадоў у гэтым клубе знаходзіўся і Сяргей Гарлуковіч. Зараз мінчанін гуляе на чэмпіянаце свету ў ЗША за каманду Расіі.

ТЭНІС. Беларуска Наталля Зверава прымае ўдзел у знакамітым Уімблдонскім турніры, на якім знаходзіцца сярод фаварытак. Асабліва ў парным разрадзе, дзе, магчыма, выступіць разам з пастаяннай партнёршай амерыканкай Дж.Фернандэс.

СУЧАСНАЕ ПЯЦІБОР'Е. Міжнародны турнір на прызы Дзяржтэлерадыё Беларусі прайшоў у Мінску. У чатырох з пяці відаў перамаглі гаспадары. Лепшым у асабістым заліку аказаўся наш зямляк Андрэй Смірноў.

ВАЛЕЙБОЛ. Вызначыўся сапернік мужчынскай зборнай Беларусі ў папярэдніх гульнях першынства Еўропы. Ім стала каманда Славеніі. Гульні адбудуцца восенню.



**Студэнтка з Гомеля Алена Рудкоўская стала першай у гісторыі беларускага жаночага плавання алімпійскай чэмпіёнкай, паказаўшы вынікі, якіх у рэспубліцы ніхто ніколі не дасягаў.**

**Упершыню Алена здзівіла ўсіх у 1991 годзе, калі на чэмпіянаце Еўропы выйграла адразу тры дыстанцыі -- сто і дзвесце метраў брасам, а таксама заваявала золата ў эстафеце.**

**Але галоўны яе старт, вядома, Алімпіяда ў Барселоне, дзе Алена заваявала "золата" на дыстанцыі 100 метраў брасам і бронзавы медаль у камбінаванай эстафеце 4 па 100 метраў. Потым былі Універсіяда ў Буфала і чэмпіянат Еўропы ў Шэфілдзе, адкуль яна таксама вярнулася з медалямі.**

**Цяпер праслаўленая беларуская плыўчыха рыхтуецца да чэмпіянату свету ў Рыме, што адбудзецца ў верасні.**

**НА ЗДЫМКУ: алімпійская чэмпіёнка Барселоны Алена РУДКОЎСКАЯ на трэніроўцы.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

*НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ*

# ГІСТОРЫЯ Ў МІНІЯЦЮРАХ

За апошні час Міністэрства сувязі Беларусі выпусціла некалькі цікавых паштовых мініяцюр, што расказваюць пра гісторыю нашай дзяржавы. Прадоўжана гербавая серыя, пачатая маркай з адлюстраваннем герба старажытнага Полацка. Для новай маркі быў абраны герб старажытнага Мінска, дараваны гораду ў студзені 1591 года. Прадоўжана таксама архітэктурная серыя 1992 года -- маркай з адлюстраваннем магілёўскага Станіславаўскага касцёла (касцёл кармелітаў). Гэты помнік архітэктурнага барока быў пабудаваны ў 1738--1752 гадах, ён славіцца не толькі сваёй архітэктурай, але і фрэскамі (мастак П. Піатроўскі, 1765 год). Да нашых дзён захавалася больш за 20 фрэскавых кампазіцый на гістарычныя, біблейскія і евангельскія тэмы. Сярод адлюстраванняў, што захаваліся, вылучаецца фрэска з панарамай Магілёва.

У некалькіх сваіх матэрыялах я ўжо расказваў пра паштовыя выпускі, прысвечаныя К. Каліноўскаму, але то былі выпускі ведамства сувязі былога СССР, цяпер выдадзена марка беларускай пошты да 130-годдзя нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863--1864 гадоў. Мастак М. Бялоў змясціў партрэт К. Каліноўскага на фоне групы паўстанцаў.

Тры новыя маркі прысвечаны гістарычным асобам старажытнасці -- князю Рагвалоду, князёўне Рагнедзе і асветніку Сымону Буднаму.




Рагвалод -- першы беларускі князь, аб якім паведамляюць старыя летапісы. Ён княжыў у Полацку ў другой палове X стагоддзя. Пры ім Полацкае княства стала моцнай дзяржавай. На марцы мастак паказаў князя Рагвалода на фоне карты старажытнага Полацкага княства. На карце пазначаны гарады Полацк, Віцебск, Заслаўе.

Пра князёўну Рагнеду, дачку Рагвалода, напісана многа гістарычных даследаванняў і аповесцяў, паэм і вершаў. На паштовай марцы мы бачым Рагнеду на фоне старадаўняга драўлянага замка, што стаіць на ўзвышшы. На жаль, мастак не напісаў, які са старадаўніх гарадоў Беларусі паказаны на марцы. Але па ўсім відаць, што гэта старажытнае Заслаўе, горад, у якім, па паданню, пахавана Рагнеда.




Імя архітэктара Ю. Казакова вядомае і славутае. Мемарыяльныя комплексы -- Брэсцкая крэпасць і Драмнёва (на месцы спаленай фашыстамі вёскі ў Жабінкаўскім раёне), помнікі паэту М. Багдановічу ў Мінску (скульптар С. Вакар) і беларускаму асветніку і гуманісту С. Буднаму ў Нясвіжы (скульптар С. Гарбунова) -- усе гэтыя творы мастацтва Ю. Казакова знайшлі сваё адлюстраванне і на паштовых выпусках -- канвертах і марках.

Нядаўна была выпушчана ў абарачэнне марка з адлюстраваннем помніка С. Буднаму. Аднак радасць філатэлістаў з гэтай нагоды была азмрочана тым, што помнік на паштовым знаку не мае канкрэтнага адраса. Прачытаць, каму ўстаноўлены помнік, яшчэ можна -- мастак пакінуў у полі мініяцюры п'едэстал помніка і надпіс "Сымон Будны", на марцы ёсць даты жыцця і смерці вялікага асветніка "1530--1593", а вось дзе ўстаноўлены помнік, і мастак, і камісія, што зацвярджае малюнак маркі, павеДаміць забыліся. Няма назвы горада, дзе стаіць гэты помнік. Частка жыхароў рэспублікі ведае, што імя С. Буднага звязана з Нясвіжам і што помнік устаноўлены менавіта там. А як жа быць філатэлістам далёкіх і блізкіх краін, якія амаль не ведаюць гісторыі Беларусі і ніколі не былі ў Нясвіжы? Можна падумаць, што на марцы паказана скульптура, якая знаходзіцца яшчэ ў майстэрні мастака і пакуль што нідзе не ўстаноўлена. Недаравальная памылка пошты. І, трэба сказаць, не першая.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## ВОСЬ ТАКАЯ ВЫЙШЛА ПАМЫЛКА

Падобна, у Міністэрстве сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь вырашылі не даваць спакойна спаць філатэлістам.

Да сённяшняга дня большасць з іх так і не могуць атрымаць абяцаныя наддрукоўкі на беларускіх марках і блоках, якія "памылкова" былі зроблены ў... ЗША, хаця прадаюцца цяпер па вельмі высокіх цэнах у філатэлістычных магазінах Амерыкі, Заходняй Еўропы і Расіі.

І вось новы "сюрпрыз". Аказваецца, існуюць лісты стандартных 30-, 45- і 50-капеечных марак, на якіх новыя цэны (адпаведна 15, 25 і 50 рублёў) прастаўлены дагары нагамі. Значыць, у выніку гэтай "памылкі" нехта зноў нагрэе рукі, а беларускія філатэлісты свае ж маркі будуць вымушаны набываць па вар'яцкіх цэнах. Вось чаму мы зноў вымушаны задаць пытанне Мінсувязі: зноў "памылачка выйшла"?

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 898. Падпісана да друку 27. 6.1994 г.